*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 6 (270) 7 лютага 1996 г. Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **ДЭПУТАТ ВАЛЕРЫЙ ШЧУКІН (ФРАКЦЫЯ КАМУНІСТАЎ) НА ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ЗРАБІЎ ДЭПУТАЦКІ ЗАПЫТ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРУ МІХАІЛУ ЧЫГІРУ.** Запыт датычыцца сітуацыі, якая склалася ў Міністэрстве адукацыі і навукі з беларускай мовай. «Воля большасці, выказаная на рэферэндуме, абавязвае заканадаўцаў унесці змены ў Закон аб адукацыі, але не дае права дзяржаўным чыноўнікам не выконваць гэты закон, — зазначыў Шчукін. — Рэферэндум пацвердзіў канстытуцыйнае права навучацца на рускай мове, але не забараніў усім жадаючым працягваць і пачаць навучанне на беларускай. Закон, які датычыцца правоў чалавека, зваротнай сілы мець не павінен, а таму, нават пры ўнясенні Вярхоўным Саветам 13-га склікання змяненняў у Закон аб адукацыі, правы грамадзян, якія накіравалі сваіх дзяцей у 1992—1994 гадах навучацца на беларускай мове, парушацца не могуць, паколькі іх дзеці, незалежна ад колькасці вучняў, якія засталіся ў класе, павінны навучацца на беларускай мове». Што гэта: жаданне камуністаў набыць новы імідж ці часовая гульня ў абаронцаў беларускай мовы?

❍ ***ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ РАДЫ МАЛАДЗЁЖНЫХ І ДЗІЦЯЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ УСЕБЕЛАРУСКІ МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ.***

❍ **ПА ЗАПРАШЭННІ МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ** Менск наведаў з афіцыйным візітам міністр замежных спраў Расійскай Федэрацыі Яўген Прымакоў.

❍ ***«ЗАКАНАДАЎЧАЯ ЎЛАДА І СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ»** — такую назву меў «круглы стол», які адбыўся напрыканцы студзеня ў прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета Беларусі. Акрамя журналістаў, у «круглым стале» прынялі ўдзел першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў, старшыня падкамісіі па сродках масавай інфармацыі Аляксандр Дабравольскі, а таксама яе члены Вячаслаў Герасіменка, Уладзімір Нісцюк і Леанід Юнчык. Амаль на працягу дзвюх гадзін удзельнікі «круглага стала» абмяркоўвалі праблемы, з якімі ў штодзённай дзейнасці сутыкаюцца нашы прэса, радыё і тэлебачанне.*

❍ **У МЕНСКУ АДБЫЛОСЯ ПЕРШАЕ ШТОМЕСЯЧНАЕ ПАСЯДЖЭННЕ** Амерыканскай гандлёвай палаты, якая ў Беларусі была афіцыйна заснавана ў снежні 1995 года.

❍ ***У МЕНСКУ ПА ВУЛІЦЫ ЗАХАРАВА Ў ДОМ № 68 ПЕРАЕХАЛА ПАСОЛЬСТВА ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ.***

❍ **«БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ» СПОЎНІЛАСЯ 75 ГАДОЎ. ВІНШУЕМ!**

❍ ***У МЕНСКУ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І РАСІЙСКІМ АКЦЫЯНЕРНЫМ ТАВАРЫСТВАМ ПАДПІСАНЫ ДАГАВОР.** Дакументам прадугледжаны пастаўкі на Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод 4,8 мільёна тон нафты штогод у абмен на прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў.*

***ГОД АНДРЭЯ ТАДЭВУША БАНАВЕНТУРЫ КАСЦЮШКІ*** *Стар. 4.*

***ПРАТАКОЛ СУДОВАГА РАШЭННЯ 1284 ГОДА*** *Стар. 6.*

## «Трэба пачынаць са школы...»

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі даў інтэрв'ю газеце «Звязда», у якім выказаў свае погляды і намеры ў якасці кіраўніка заканадаўчага органа ўлады Рэспублікі Беларусь. Можна толькі парадавацца, што на чале новага Вярхоўнага Савета стаў чалавек цвярозага розуму, з грунтоўнай эканамічнай падрыхтоўкай, высокімі арганізатарскімі здольнасцямі, а ў дадатак патрыёт незалежнай Беларусі па сваіх перакананнях.

Карэспандэнт задаў пытанне, як ставіцца С.Г.Шарэцкі да таго, што ТБМ мае намер правесці канферэнцыю па праблеме дыскрымінацыі беларускай мовы, і як увогуле Вярхоўны Савет можа абараніць родную мову і культуру.

— Ведаеце, нам не трэба абараняць, — сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета, — хто на яе нападае? Трэба стварыць умовы для таго, каб людзі ёю авалодалі. Я магу сказаць толькі тое, што я лічу двухмоўе не падменай адной мовы другой, а абавязковасцю ведання і адной, і другой мовы...

Далей С.Г.Шарэцкі заўважыў, што ўвядзе пасяджэнні Вярхоўнага Савета на расійскай мове таму, што так «большасць пакуль што размаўляе», а «трэба, каб увесь парламент загаварыў... А калі будуць разбірацца пытанні культуры, — працягваў Сямён Георгіевіч, — я абавязкова буду весці сесію на беларускай мове і буду старацца ўсё рабіць для таго, каб грамадства добра ведала сваю родную мову і карысталася ёй. Але гэта трэба пачынаць са школы, каб усе нашы дзеці незалежна ад таго, у якую школу яны ходзяць, добра ведалі беларускую як карэнную мову свайго народа.

Цудоўныя словы. Але ж спадзяёмся, што Сямён Георгіевіч у хуткім часе пачне весці ўсе пасяджэнні Вярхоўнага Савета па-беларуску, па-першае, прадоўжыць добрую традыцыю, а па-другое, разумеючы, што масава беларус імкнецца гаварыць так, як любіць ягонае начальства.

**Ул.Ас.**




**БНФ пратэстуе.** Пікет на плошчы Незалежнасці 24 студзеня.

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

### *Беларускае замежжа*



**На здымку:** Сяржук Сокалаў-Воюш, Галіна Вашчанка, Тамара Новікава, Дзяніска Мінзер, Леанід Барткевіч, Элеанора Сарокіна, Багдан Андрусішын (Данчык).

(*Гутарку з Тамарай Новікавай чытайце на стар. 4.*)

*Творчасць нашых чытачоў*

### *Выжывем!*

Мы — скарынічы. Ясная зорка
Па сусвету здаўна нас вядзе.
Беларуская наша гаворка
У барах Белавежы гудзе,

Над блакітам Асвеі лунае,
Па Дняпры хуткай лоддзю імчыць,
Па-над Прыпяццю песняй сягае,
Над Дзвіною, як рэха, ляціць.

Наша шчасце зусім не прапала,
Яно некуль да часу сышло.
Жыў народ. — І адыдзе навала!
Зззяе, ззяе надзеяў святло.

1995 г.
**Віктар АСАНЕНЯ.**
г.Полацк.

### «Роднае слова» — рыхтуецца чарговы выпуск

Як паведаміў рэдактар тэлечасопіса Ул.І.Содаль, «Роднае слова» без палітыкі, г.зн. без актыўнага асвятлення моўнага жыцця, дазваляецца...

У студзені «Роднае слова» прайшло ў эфір 12.01.96, у пятніцу, у 15.50. Хто яго бачыў? Хто яго змог убачыць?

Рыхтуецца чарговы выпуск.

Але час паказу будзе прыкладна такі ж. То, лічы, што перадача «Роднае слова» нібыта і ёсць, і нібыта яе няма.

Пакуль такое яе становішча.

### ТБШ-1996

30 студзеня адбылося пасяджэнне Ініцыятыўнай групы, якая прыняла рашэнне падрыхтаваць Устаноўчы сойм Таварыства беларускай школы. Абмеркавана магчымасць стварэння Арганізацыйнага камітэта. Прызначана таксама група сяброў дзеля напісання Статута будучай грамадскай арганізацыі.

З.С.

## Чытачы пра «НАША СЛОВА»

Добрага дня, шаноўныя спадары! Вырашыў выказаць некалькі сваіх меркаванняў пра «Наша слова». Выпісваю газету ўжо 4 гады. Газета добрая, але, на мой погляд, трэба крыху больш аператыўнасці. Варта таксама надаць шматграннасці і развіваць тэматыку. Думаецца, не закрываць трэба рубрыку «Веруем», а яшчэ стварыць новыя пра духоўнасць. Варта пісаць і аб спорце, увогуле — не баяцца навізны, але не цурацца старога добрага.

Зычу Вам поспехаў на ніве выхавання любові і самаадданасці сваёй Радзіме-Беларусі, бо сумна і прыкра назіраць, як верх бяруць людзі лукашэнкаўскага тыпу, разбураючы і топчучы нашу адметнасць як народа. Суцяшае толькі, што новыя пакаленні будуць не такімі недальнабачнымі, але ж само гэта не здараецца, трэба, каб нехта разумна людзям усё растлумачыў.

Прабачце, калі ласка, калі што не так.

**Пятро ФІЛІПОВІЧ, электраманцёр, 42 гады.**
в.Чамярысы, Брагінскі раён.

---

Добрага здароўя, паважаная рэдакцыя!

Так сталася, што «Наша слова» зрабілася маім добрым сябрам, які прыходзіць да мяне штотыдзень. Ён размаўляе са мной, вучыць любові да Радзімы, мове маёй роднай. Добры сябра! Хай гэты ліст будзе маім шчырым прывітаннем яму. Жадаю доўгага жыцця.

**Андрэй КУЗНЕЧЫК (17 год).**
г.Менск.

---

Паважаная рэдкалегія! Я сталы чытач газеты «Наша слова». На маіх вачах газета стала вельмі цікавай і змястоўнай пры адносна невялікім фармаце. Мы з жонкай чытаем яе, як кажуць, ад «а» да «я». Газета задавальняе нас сваёй ідэйнай накіраванасцю, мастацкім густам. Але ж мы старыя па ўзросту людзі і па стану здароўя не можам займаць актыўную пазіцыю ў жыцці. А таму лічу, што газета павінна шукаць сваіх чытачоў сярод актыўнай часткі насельніцтва, асабліва настаўнікаў, студэнтаў, вучняў старэйшых класаў. Мабыць, патрэбна, акрамя старонкі «Кола сям'і», увесці раздзел накшталт «Табе, малады чытач» з тэмамі «Як выбраць вернага сябра на ўсё жыццё?» і т.п. А ўвогуле, мабыць, патрэбен і асобны варыянт газеты для маладога чытача. Разам з тым патрэбна, каб газету на месцах прапагандавалі сябры ТБМ, асабліва ў інтэрнатах, розных навучальных установах.

З павагай

**П.Ц.ТКАЧОЎ, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ветэран педагагічнай працы.**
г.Ваўкавыск.

*Але! Але!*

## Госці ў сваім доме...

Уважліва прагледзеў святочную тэлепраграму "У Новы год — з надзеяй і дабром!" і быў прыемна ўражаны як багаццем дэкаратыўнага, светавога і музычнага яе забеспячэння, так і вельмі шырокім колам індывідуальных удзельнікаў, а таксама колькасцю мастацкіх калектываў. Мы, людзі старога пакалення, выхаваныя на выдатных узорах песень і выканаўцаў савецкай эстрады, змаглі ўбачыць сённяшнюю таленавітую беларускую моладзь, паслухаць лепшыя песні сучасных кампазітараў і паэтаў.

Але кінулася ў вочы і засела ў памяці незвычайная перавага расійскай мовы ў тэлевізійнай навагодняй "страве": беларускасць падавалася толькі... у якасці "гарніру" ці што. А куды падзелася наша беларуская адметнасць і асаблівасць свята, нацыянальная яго сутнасць? На маю думку, яна павінна быць, бо мы не ў гасцях, а ў сваім доме.

З павагай адносячыся да расійскай мовы, добра ўсведамляючы яе міжнацыянальную і міжнародную функцыю, тым не меней не варта забываць, што існуе беларуская дзяржава і народ — беларусы. А таму павінна найперш гучаць і беларуская мова. Гэта разумее польскі пасол, выказваючы свае пажаданні па-беларуску. Затое наша кіраўніцтва віншавала і гаварыла... па-расійску. Безумоўна, трэба ўлічваць маштабы русіфікацыі нашага народа за мінулыя гады. Расійская мова ў нас сапраўды стала для большасці насельніцтва паўсядзённай. Але логіка і здаровы сэнс падказваюць, што варта было аддаць перавагу беларускай мове і песням. Праўда, мову нашу ўсё ж ужывалі. У большасці журналісты, некаторыя ўдзельнікі, як М.Фінберг, І.Лучанок... З вялікай радасцю слухаў беларускія песні, якія выконвалі Алеся «Хай Новы год...», Якаў Навуменка «Каля плоту у суботу», А.Ярмоленка «Мая каханая», У.Прывалінскі «Цыганка», Галя Штрых "Як прыгожа гэта ноч", некаторыя яшчэ. Упрыгожыла праграму мілагучнай беларускай моваай вядучая конкурсу на «Сумнага Бэбі». Але такіх прыкладаў усё ж малавата.

Думаю, што да гэтай сітуацыі падыходзяць словы Я.Брыля, напісаныя яшчэ ў 1960 г.: «У нас многа любві да рускай мовы, культуры, моцнае пачуццё брацкай і інтэрнацыянальнай дружбы, аднак, — нам варта і трэба было б павучыцца ва ўкраінцаў паважаць саміх сябе».

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ, настаўнік-пенсіянер.**
г.Ашмяны.

## Даты і падзеі ў лютым

**10 лютага** — спаўняецца 170 гадоў П.В.Шэйну (1826—1900), беларускаму і расійскаму фалькларысту і этнографу.

**11 лютага** — спаўняецца 170 гадоў Яну Шэмету-Палачанскаму (1826—1905), беларускаму паэту.

**17 лютага** — 190 гадоў з дня нараджэння К.П.Тышкевіча (1806—1868), гісторыка, этнографа, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

**19 лютага** — 75 гадоў таму ў лютым выйшаў першы нумар часопіса для дзяцей «Зоркі» пад рэдакцыяй З.Бядулі (1921—1922).

135 гадоў з дня нараджэння Я.Брайцава (1861—1931), празаіка, драматурга, паэта.

**20 лютага** — 70 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Л.А.Вакулоўскага (1926—1991).

**23 лютага** — Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

105 гадоў з дня нараджэння М.М.Піятуховіча (1891—1938), беларускага крытыка і літаратуразнаўцы, правадзейнага члена Інбелкульта, прафесара.

**25 лютага** — 125 гадоў з дня нараджэння Л.Украінкі (Л.П.Косач) (1871—1913), украінскай пісьменніцы-рэвалюцыянеркі.

**29 лютага** — спаўняецца 240 гадоў І.М.Яленскаму (1756—1813), беларускаму публіцысту эпохі Асветніцтва, прадстаўніку радыкальнага утапізму.

*У газетах*

## Студэнты выказваюцца сур'ёзна

На запрашэнне кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча паразважаць аб сэнсе «стара-новай» сімволікі Беларусі адгукнуліся студэнты Белдзяржуніверсітэта.

**Ананімны аўтар:**

«...Лічу, што ніякай гісторыі ў гэтых сімвалаў няма. Я неадной чуў ад ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, што яны змагаліся пад гэтым сцягам. Гэта няпраўда! Сцяг быў створаны значна пазней. Цяпер чаму я назваў гэты сцяг дзікунскім. Наперад усім колер. Зялёнага колеру няма ні ў адной еўрапейскай краіны. Зялёны колер у сцягу лічыцца прыкметай мусульманскага свету, з чым і віншую Адміністрацыю Прэзідэнта. Арнамент. Я пакорпаўся ў бібліятэцы і там даведаўся, што менавіта гэты арнамент вышывалі беларускія жанчыны, калі рыхтаваліся да смерці...»

**Алесь ШАЎРУК, II курс, геафак:**

«...Усё вырашаецца наверсе, а што мы тут нешта думаем... Нашыя думкі такія, што нікому яны (сцяг і герб. — Рэд. «Нашага слова») не патрэбныя і з імі можна ведаеш куды схадзіць? Ды й якая, па сутнасці, студэнту справа да таго, што ці хто на сцяне тут вісіць?»

**Марына ШПАКОВІЧ, IV курс, філфак:**

«Я супраць. Мяне не цікавіць палітыка, але над усім павінны быць Закон. Калі вакол новага герба столькі спрэчак, навошта сапраўды яго павесілі?»

**Наташа ПЯТРОВЫХ, III курс, геафак:**

«Я б сказала, чаму мне гэта не падабаецца, але ж раптам хто з выкладчыкаў потым прозвішча ў газеце прачытае? Але сапраўды, навошта наогул было вешаць? Усё роўна праз год-два нанова ўсё пераробяць, ужо не такі, а якуюнебудзь сівіну ў кароне намалююць. З нашых жа палітыкаў станецца».

**Уладзімір ДАРАГУЖ, фізік:**

«...Напрошваецца назва сцяга — «лясны пажар». Ну, а герб адразу ж атрымаў у народзе назву «пахавальны вянок Рэспублікі Беларусь»... Але ёсць сэнс звярнуць увагу на некаторыя яго элементы. Чырвоная зорка зверху — сатанінскі знак, уведзены ў бальшавіцкую сімволіку самім Львом Троцкім. Контур Беларусі, які лунае над зямной куляй, — гэта яе душа, што пакідае цела. Сонца, якое заходзіць, узмацняе гэта адчуванне...

У заключэнне хачу запытаць: ці вартая шаноўнага патрыярха жывапісу, народнага мастака СССР справа — дапамагаць розным прыблудам і манкуртам пазбаўляць наш народ гістарычнай памяці?»

**Ахмед, студэнт з Сірыі:**

«...Вашым людзям не падабаецца тая сімволіка, што была, таму што нібыта падчас вайны яе ўжывалі тыя, хто нішчыў мірнае насельніцтва. Але ж ваша гісторыя існавала і да вайны, і пад чырвоным сцягам таксама існавала дрэнная палітыка. У вас неадукаванае насельніцтва, яно не разумее, што нельга ставіцца да нязменных рэчаў, зыходзячы з асобных момантаў гісторыі ці палітычных перакананняў кагосьці аднаго. Той сцяг і герб, які ў вас зараз, у свеце не паважаюць, бо людзі не прымаюць камунізму. А чырвоны колер — яго ўстойлівы сімвал»...

*(«Беларуская маладзёжная», № 2, 1996 г.)*

*Наш каляндар*

## Хартыя шляхецкіх правоў і вольнасцяў

*(Заканчэнне. Пачатак у № 4.)*

У папярэдняй частцы артыкула згадвалася, што над укладаннем Статута 1566 года працавалі маршалкі, суддзі, юрысты-практыкі і навукоўцы — дактары «абоягa» права. На жаль, апроч Мартына Валадковіча, Паўла Астравіцкага, Аўгуста Ратондуса (Круглага?) ды Пятра Раізія Гішпана, яны, аўтары Хартыі правоў і вольнасцяў шляхецкіх, засталіся невядомымі. Але іх заслуга, што ў Вялікім Княстве нашмат раней, чым у іншых еўрапейскіх феадальных дзяржавах, былі складзены ў сістэматычным Зборы прававыя нормы, і перш за ўсё нормы дзяржаўнага права. Статутам 1566 года, ягоным першым раздзелам быў вызначаны склад тэрыторыі ВКЛ, а вялікі князь абавязаны быў «добра княства» (ведама, уладанні дзяржавы — ВКЛ, але таксама і яе грамадзян не растрачваць), «в границах... не вменшаці». Вельмі важным, асабліва сёння, уяўляецца артыкул 9 трэцяга раздзела пра абераганне дзяржавы ад наплыву іншаземцаў: «...достойностей духовных і свецкіх, городов, дворов і кгрунтов, староств в державы і пожываньі і вечностей жадных чужоземцом і заграничником ані суседом таго панства даваці не маем». Такім чынам пацвярджалася, што толькі грамадзяне Вялікага Княства мелі права займаць пасады і валодаць маёмасцю, што, дарэчы, было выкладзена яшчэ ў Статуце 1529 года. Так ускосна пацвярджаецца беларускае паходжанне славутага Аўгуста Ратондуса (Круглага?), які, як згадвалася, быў віленскім войтам.

У згаданым трэцім раздзеле Статута 1566 года былі абумоўлены іншыя правы шляхты. Па-першае, захоўваліся ўсе льготы і прывілеі, атрыманыя шляхтай у папярэднія гады. Новыя законы патрабавалася прымаць толькі на вальным (агульным) сойме. У артыкуле 5 быў вызначаны парадак правядзення паветовых сеймікаў, на якіх абмяркоўваліся мясцовыя справы ды выбіраліся дэпутаты на агульнадзяржаўны сейм — па два ад кожнага павета. Менавіта толькі сейм (г.зн. пераважна сама шляхта) мог вырашаць пытанні аб вайне і падатках.

У тагачаснай Еўропе ўзнікалі рэлігійныя войны, супраць іншаверцаў ладзіліся крывавыя рэпрэсіі. У нашай жа дзяржаве становішча жыхароў вызначалася выключна іх асабістымі якасцямі ды здольнасцямі. Статут 1566 года трэцім артыкулам трэцяга раздзела гарантаваў роўныя правы праваслаўным, каталікам, кальвіністам, антытрынітарыям ды іншым рэлігійным сектантам. Вялікі князь і ўсе дзяржаўныя органы абавязваліся забяспечыць спакой і недатыкальнасць усіх жыхароў Княства. Усім Зборы нормаў дзяржаўнага, зямельнага, адміністрацыйнага, грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, працэсуальнага права была ўпершыню сфармулявана прэзумпцыя невінаватасці. Статут сцвярджаў, што суд «в речах вонтпливых (у сумніўных справах) мает скклоннейший быці ку вызволеню ніжлі ку караню». Гэтае правіла напачатку не павінна было распаўсюджвацца на простых людзей. Інакш і не магло быць, бо для асобных груп насельніцтва ВКЛ меліся асобныя суды, прыкладам, справы сялянаў разглядаў пераважна копны суд. (Статут 1588 года спецыяльна абгаворваў гэтае правіла і для простага люду — пашыраў прэзумпцыю невінаватасці на ўсіх жыхароў ВКЛ.) Крымінальная адказнасць прадугледжвалася толькі для асоб, якім споўнілася 14 гадоў.

Саслоўным судом для шляхты быў земскі паветовы. Канчатковае прававое афармленне гэтай судовай установы было праведзена Статутам 1566 года. Ён быў аддзелены ад дзяржаўнай адміністрацыі, што сведчыла пра пачатак раздзялення ўлады. На паветовым сейміку шляхта выбірала на чатыры кандыдаты на пасаду суддзі, падсудка і пісара. А вялікі князь толькі зацвярджаў аднаго з кандыдатаў.

Парасткі новых нормаў грамадзянскага, шлюбна-сямейнага, спадчыннага права таксама былі замацаваныя ў Статуце 1566 года. Былі абмежаваныя правы феадала завяшчаць маёмасць — дзве трэці павінны былі застацца нашчадкам. Спадчыннікамі ўпершую чаргу прызначаліся родныя дзеці ды іх нашчадкі. Права на частку маёнтка (але не больш трэці) мела і ўдава.

Правы і абавязкі шляхты былі выкладзены таксама і ў іншых раздзелах Статута (усіх было 14). Прыкладам, у чацвёртым — нормы працэсуальнага права, паводле якога шляхціча нельга было мучыць дзеля атрымання прызнання. У сёмым раздзеле абумоўлівалася права адчужэння маёнткаў пад умовай закладу і продажу. (Відаць, менавіта на падставе гэтай часткі Статута ВКЛ дамовіліся пра продаж маёнтка Сяхновічы бацька Андрэя Тадэвуша Касцюшкі з сваім дзядзькам, пра што згадвалася ў папярэднім нумары «Нашага слова».) Гэтыя правы і абавязкі абумоўлены таксама і ў раздзелах: Аб зямельных спрэчках (дзявяты), Аб лясных промыслах (дзесяты), Аб гвалтоўніцтвах і злачынствах супраць шляхты (адзінаццаты), Аб маёмасных (трынаццаты) ды іншых (чатырнаццаты) злачынствах. У Статуце 1566 года меўся і раздзел — дванаццаты, — які спецыяльна гаварыў аб злачынствах супраць простых людзей. Прыкладам, за забойства простага чалавека да крымінальнай адказнасці мог быць прыцягнуты і шляхціч. Працэсуальны парадак доказу вінаватасці прадстаўніка вышэйшага саслоўя быў вельмі ўскладнены, з-за чаго злачынца мог застацца непакараным. Але сам факт наяўнасці такой нормы права, што абмяжоўвала самавольства шляхты, меў, як сцвярджае вядомы даследнік Іосіф Юхо, істотнае значэнне.

Як бачым, укладальнікі Статута 1566 года — прадстаўнікі прывілеяванага саслоўя — добра ўсведамлялі вартасць чалавечага жыцця, незалежна ад маёмаснага стану грамадзяніна дзяржавы. Крымінальнае права нашых продкаў апярэджвала падобнае права шмат якіх еўрапейскіх краін. Прыкладам, у Польшчы гэтая норма была заканадаўча замацавана толькі праз дзвесце гадоў.

Статут 1566 года сцвярджаў правы чалавека, асобы не толькі пад уздзеяннем ідэй гуманізму і рэфармацыі, якія тады пашыраліся на Беларусі. У ім праявілася багатая прававая культура нашага народа. У яго аснову была пакладзена беларуская, а не лацінская прававая лексіка. І напісаны быў Статут беларускай моваю.

**З.СІЦЬКА.**

### Да канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»

***Як ужо паведамлялася, Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны прыняла рашэнне наладзіць канферэнцыю «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты». Сакратарыят ТБМ прызначыў дзень правядзення канферэнцыі — 30 сакавіка сёлета.***

***Газета пачынае друкаваць матэрыялы да гэтай канферэнцыі.***

# Небяспечная мова?

***Колькі ж чалавек у заканадаўчым органе Беларусі гавораць па-беларуску?***

Не хочацца лішні раз нагадваць, што ў любой іншай дзяржаве пытанне, вынесенае ў падзагаловак, гучыць, па меншай меры, абсурдна. Аднак у нас дзяржава спецыфічная, і дэпутаты ў ёй спецыфічныя (асабліва пасля рэферэндуму). Большасць з іх беларускую мову ведае «ў межах, неабходных для ўспрымання» (інакш кажучы, як выхаваны сабачка — усё разумее, а сказаць нічога не можа).

Рыба, як кажуць, гніе з галавы, таму паводзіны Старшыні Вярхоўнага Савета ў моўным пытанні адыграюць значную ролю. Сямён Шарэцкі заняў тут, скажам асцярожна, вельмі своеасаблівую пазіцыю. Яго заява пра тое, што пытанні бюджэту ён будзе весці на рускай мове, а праблемы культуры — па-беларуску, выклікае, як мінімум, іранічную заўвагу: а што, калі будуць разглядацца праблемы культуры ў бюджэце?

З аднаго боку, у сваіх інтэрв'ю Шарэцкі захапляецца «Адвечным шляхам» Абдзіраловіча і гаворыць аб неабходнасці нацыянальнай годнасці і культуры, а з іншага — ніхто ад яго пакуль не чуў ані слова па-беларуску: на беларускамоўныя пытанні журналістаў ён адказвае па-руску. Спасылка Шарэцкага на тое, што ён будзе весці сесію па-руску, бо так гаворыць большасць дэпутатаў, выглядае альбо бездапаможна, альбо цынічна. Калі памірае чалавек, можна альбо дапамагаць яму выжыць, альбо нічога не рабіць, паўтараючы «на ўсё воля Бога». Ці, як у нашым выпадку, — «на ўсё воля большасці».

Нават дэпутаты, якія без праблемаў валодаюць беларускай мовай, здаецца, лічаць непатрэбным у пэўных сітуацыях дэманстраваць гэтую сваю якасць. Аляксандр Дабравольскі і Анатоль Лябедзька, акрамя аднаго-двух разоў, выступаюць на рускай мове. Як растлумачыў мне Дабравольскі, яны баяцца, што рэпліка на беларускай мове можа пашкодзіць станоўчаму праходжанню таго ці іншага важнага пытання.

Зрэшты, менш за ўсё хацелася б крытыкаваць «Грамадзянскае дзеянне» — дэпутаты гэтай фракцыі на чале з Багданкевічам перавaжна разумеюць важнасць беларускай мовы для самастойнага культурна-палітычнага развіцця нашай краіны. І, наколькі я ведаю, большасць з іх хацела б ёю валодаць, — таму будзем спадзявацца на лепшае. Дарэчы, Генадзь Карпенка першым свае паведамленні ў якасці намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета зрабіў па-беларуску.

У Сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Беларусь» найбольш паслядоўнымі прыхільнікамі беларушчыны з'яўляюцца два дэпутаты ад Грамады — Пётр Краўчанка і Павел Знавец. Яшчэ на першай прэс-канферэнцыі фракцыі Краўчанка заявіў, што сацыял-дэмакраты будуць адстойваць у парламенце адраджэнскія ідэі, а астатнія дружна заківалі галовамі. На гэтым іх «адраджэнская» функцыя і абмяжоўваецца: лідэр фракцыі Лявон Сечка яшчэ імкнецца часам гаварыць па-беларуску, але іншыя дэпутаты ад СДС у «порочащих» сувязях з беларускай мовай заўважаны не былі.

Аграрыі, як гэта ні дзіўна, маюць у сваіх шэрагах аднаго дэпутата, які нармальна гаворыць па-беларуску. Астатнія ж прадстаўнікі гэтай фракцыі, відавочна, зрабілі ўсё магчымае, каб ніхто не называў іх ганебным словам «калхознік»: гавораць яны ўжо нават не «трасянкай», а амаль чыстай рускай мовай. Засталіся толькі «аграрныя» «г», «ч», і «р» у вымаўленні — і гэта, як паказвае вопыт Лукашэнкі, выправіць нялёгка. Хаця, калі патрэніравацца альбо пахадзіць да лагапеда, апошнія сведчанні свайго беларускага паходжання ўсё-такі ўдасца знішчыць.

Сярод камуністаў знайсці дэпутата з такой унікальнай для гэтых людзей якасцю, як валоданне беларускай мовай, пакуль не ўдалося. Можа, яны і ёсць, але не «свецяцца», — магчыма, баяцца сваіх таварышаў па партыі. Бо для сучасных нашых камуністаў марай з'яўляюцца словы Маякоўскага пра жыццё «без России и Латвий», пра што напісаў нядаўна ў прэсе іхні дэпутат Валеры Шчукін. Ідэя наконт «без Россий» заслугоўвае, канешне, самай сур'ёзнай увагі — цікава толькі, на якой мове ў такім выпадку размаўляў бы беларускія камуністы? Няўжо па-латышску?

Не хочацца лішні раз чытаць натацыі на тэмы культуры і нацыянальнай годнасці. Тым больш што цяпер гэтыя паняцці не модныя, замест іх пануе хамства і дэнацыяналізацыя. Цяпер модна блюзнерскае крыўлянне (тыпу: «ня-ма-а рэформаў»), якім прыкрываецца комплекс уласнай інтэлектуальнай непаўнацэннасці. Хочацца, аднак, спадзявацца, што ў большасці дэпутатаў «з комплексамі» ўсё ў парадку, і яны зразумеюць, што глыток уласнай культуры яшчэ нікому не пашкодзіў. Будзем спадзявацца і на тое, што ім захочацца хоць чым-небудзь адрозніваццa ад людзей, якія ненавідзяць усё беларускае...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**
**(«Свабода», № 4, 1996 г.)**

## Уражанні

### Позна спахапілася

Дзяўчына прадае ў шапіку заморскую садавіну. Чытаю цэны: «Лимон — 25000, киві — 4000...» Цікаўлюся: «А чаму вы «киві» з беларускім і напісалі?» — «На адну палачку менш пісаць — паста эканоміцца». — «А чаму ж тады «лимон» з расійскім и ?» — «Позна спахапілася».

### Рагачы, бамбіза!

Нядобразычлівыя беларускай мовы любяць здзекавацца з яе, па-свойму перакладаючы тыя ці іншыя сказы.

— Вот, смотрите, — казалі яны, — как звучит на белорусском языке известная фраза «Смейся, паяц, над разбитой любовью!» — «Рагачы, бамбіза, над раздрыпаным каханнем!»

Нават з эстрады гучала гэтая «смехатэрапія».

Але з таго моманту, як Іван Бамбіза быў абраны намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета, гэтага жарту я ні разу не чуў. Мо, цяпер ужо не так тая фраза перакладаецца?

Праўда, сёння ўжо спадара Бамбізы няма сярод кіраўнікоў дзяржавы. Зноў зарагочам?

### У кожнага свае

Калі чалавек раней непрыхільна ставіўся да свайго пераходу на беларускую гаворку, а потым усё ж стаў гаварыць на беларускай мове, то я заўсёды цікаўлюся, якая прычына падштурхнула да гэтага. Вось некаторыя адказы.

Міхась Гусакоўскі, кандыдат філасофскіх навук: Я заўважыў, што гэтая мова вельмі паэтычная, на ёй цудоўна гучаць вершы.

Сяргей Шышкін, журналіст: Я заўважыў, што тыя, хто карыстаецца беларускай мовай, ніколі не лаюцца матам.

Вадзім Сакалоў, рабочы: Я не хачу карыстацца мовай, якой гаворыць наша высокае начальства. Акрамя таго, мне стала цікава чытаць беларускія газеты.

**Міхась БУЛАВІЦКІ.**
г.Магілёў.

## Актуальна

# Будаваць свой Беларускі Дом

*Аб становішчы беларускай мовы ў сістэме асветы сталічнай вобласці гутараць намеснік начальніка Упраўлення адукацыі Менскага аблвыканкама Георгій Ніканович і журналіст Алесь Мікалайчанка.*

**— Пажаваны Георгій Іванавіч, скажыце, калі ласка, на якім узроўні знаходзілася беларусізацыя ў школах Менскай вобласці ў мінулым навучальным годзе і што дзеецца зараз? Ці ёсць у Вас пэўная статыстыка?**

— Вядома, ёсць. Вось адна з самых яскравых лічбаў: у 1995 годзе ў вобласці 98 працэнтаў першакласнікаў вучыліся па-беларуску. Столькі ж дзетак знаёміліся па спецыяльнай праграме з родным словам і ў дзіцячых садках ды іншых дашкольных установах. Сённяшняя лічба такая: колькасць усіх вучняў, якім выкладаецца «школьная навука» на беларускай мове, зменшылася на 20 працэнтаў. Згаданыя 20 працэнтаў перайшлі ў расійскамоўнае навучальнае асяроддзе. Лічба сур'ёзная. Хаця і не «абвальная», калі ўлічыць тыя абставіны, што пасля рэферэндуму 14 траўня мінулага года па-прарасійску настроеным бацькам прадаставілі поўную вольніцу.

**— А як вырашылася справа ў сіроцкіх і паўсіроцкіх навучальных установах вобласці з «моўным» пытаннем? Тут жа бацькоў дзецям спрабуюць замяніць выхавацелі і настаўнікі, уласна, людзі дзяржаўныя...**

— Адносна моўнай сітуацыі ў школах-інтэрнатах, то з прычыны сіроцтва і паўсіроцтва нашых падапечных тут пасля рэферэндуму нічога не змянілася, і такім чынам застаўся прыярытэт беларускай мове. Гэта тычыцца першых класаў. Міністэрства адукацыі са свайго боку першакласнікаў са школ-інтэрнатаў забяспечыла падручнікамі. Так што праблем тут не будзе...

**— Якія яшчэ катэгорыі навучальных устаноў Менскай вобласці захавалі беларускую мову як мову выкладання прадметаў, мову школьнага асяроддзя?**

— Гімназіі. У нас іх налічваецца ў вобласці дванаццаць. Паколькі гэтыя навучальныя ўстановы ў свой час арганізоўваліся як цэнтры нацыянальнага Адраджэння ў педагогіцы і выхаванні падрастаючага пакалення, то іх назвалі беларускімі гімназіямі. Канешне, мы тут ва ўпраўленні ды і аддзелы адукацыі на месцах уважліва сачылі за акалічнасцямі, якія складаюцца з моўнай сітуацыяй, каб не нанесці ўрон статуснасці гімназій. Тут нам было прасцей: яны не маюць «сваіх» мікраранёнаў у сэнсе тэрыторый, якія гімназіі «абслугоўваюць», а належаць, так бы сказаць, усяму гораду або раёну. Таму педагогі тлумачылі бацькам-ініцыятарам увядзення расійскай мовы ў навучальным працэсе гімназій: калі ласка, вядзіце, шаноўныя таты-мамы, сваіх дзетак у школы, дзе ўсё выкладаецца па-расійску, у вашых мікраранёнах. Паўсюдна гэткіх школ зашмат — знойдзецца месца кожнаму. Так вось мы ўратавалі ад «кровазмяшэння» ці не ўсе гімназіі, акрамя Валожынскай, дзе такі даваліся адкрыць адзін расійскамоўны клас...

**— А ў «звычайных» беларускіх школах без моўнага «кровазмяшэння» не абышлася справа?**

— Так, беларускіх школ, у якіх бы не адкрылі адзін-два расійскамоўныя класы, засталося вельмі мала. Праўда, зусім не адбылося аніякіх зменаў у Капыльскім раёне. Крыху горш на Салігоршчыне і Маладзечаншчыне. Але там сярод насельніцтва пераважае беларуская мова, там людзі паважаюць свае карані, паважаюць беларушчыну. Вазьміце да прыкладу Маладзечанскую гімназію, дзе дырэктарам спадар Вайцяхоўскі — сапраўды адраджэнец роднай культуры. Гэта ж не проста беларуская гімназія, а, не раўнуючы, ліцэй. Выдатны музей беларускага побыту! Які тэатр, дзе рэжысёрамі — прафесійныя артысты! А стажыроўкі гімназістаў у Германіі! Ды тут штогод даводзіцца наладжваць конкурс на прыём, бо атрымліваецца па тры прэтэндэнты на адно месца. І не тое, што патрабуюць змяніць мову навучання, але рыхтуюць сваіх дзяцей, каб тыя добра размаўлялі па-беларуску... Ды «Наша слова», здаецца, друкавала матэрыял з той гімназіі. Карацей, наяўнасць у Маладзечне беларускай гімназіі змушае тамтэйшых бацькоў да свядомага пазітыўнага стаўлення адносна беларушчыны. І паспрабуйце іх пераканаць у адваротным. Яны знойдуць, што адказаць, за словам у кішэню не палезуць...

**— Скажыце, калі ласка, ці шмат складанасцяў прыносіць вось такая беларуска-расійская моўная «мешаніна», пра якую Вы казалі раней?**

— Шмат. Гэта дадаткова расійскамоўныя настаўнікі, падручнікі, табліцы, іншыя дапаможнікі. Лепей усё ж, калі беларуская школа з'яўляецца чыста беларускай, а расійская — чыста расійскай. Але беларуская школа павінна мець перспектыву ў сэнсе «працягу» выкладання на роднай мове прадметаў у тэхнікумах, вучылішчах і вышэйшых навучальных установах. Паколькі што ў гэтым плане там не ўсё яшчэ зроблена. Як і дзе вучыцца далей пасля сканчэння поўнай або няпоўнай школы выпускнікам па-беларуску? А кожны ж бацька вучня, які добра ці выдатна вучыцца ў школе, хоча даць нашчадку вышэйшую або сярэднюю спецыяльную адукацыю. Вось і думайце, куды ён аддасць сваё чада — у беларускую ці ў расійскую школу пры цяперашніх умовах.

**— У Вашай, Георгій Іванавіч, практыцы ў пасляррэферэндумаўскі перыяд шмат сустракалася бацькоў, якія з надзвычайнай настойлівасцю патрабавалі ад кіраўнікоў беларускіх школаў стварэння для сваіх дзяцей расійскамоўных класаў?**

— Больш чым хто мне асабіста запомнілася... калега з адной вясковай школы, што спакон вякоў была школай беларускай і што размяшчалася непадалёку ад сталіцы. Дык вось, настаўніца дзеля таго, каб яе дзіцятка вучылася па-расійску, запатрабавала правесці «тлумачальную працу» з бацькамі астатніх вучняў, якія займаліся ў адным класе з яе сынам, і ўвесь клас перавесці на выкладанне прадметаў па-расійску...

**— На чым пагадзіліся?**

— Паколькі бацькі іншых школьнікаў не выказалі такога жадання, як гэта настаўніца, то прынялі рашэнне займацца з яе сынам па індывідуальнай праграме. На практыцы гэта атрымліваецца так: на ўроках дзіця слухае беларускую мову, а потым з ім дадаткова займаюцца па-расійску...

**— Нічога сабе! «Беларускамоўным» дзеткам гэткай ласкі і ў Менску ніхто не рабіў у тых школах, дзе гвалтам касавалася роднае слова на карысць расійскай мовы. Восенню на з'ездзе ТБМ імя Ф.Скарыны нават адзін з лідэраў камуністаў Валерый Шчукін выступіў у абарону беларускай мовы ў школах, паабяцаў разабрацца з яе цкаваннямі. Дарэчы, як дэпутат Вярхоўнага Савета ён нядаўна зрабіў адпаведны запыт да прэм'ер-міністра. Гэта сапраўды па-грамадзянску і па-мужчынску. Георгій Іванавіч, а што Вы можаце сказаць пра моўную сітуацыю ў Барысаве і Барысаўскім раёне, дзе на чале выканаўчай улады знаходзяцца актывісты ПКБ?**

— Палітычную адзнаку даваць не буду. Я і сам — прадстаўнік абласной вертыкалі. І павінен быць па-за палітыкай. Мне ўсё адно, хто ў згаданым рэгіёне пры ўладзе — актывісты ПКБ, БНФ або Грамады. Закон для ўсіх адзін. У тым ліку — Закон аб мовах ці права бацькоў выбіраць мову навучання для сваіх дзяцей. Вось з гэтых пазіцый я магу выказацца. Такім чынам, горад Барысаў і Барысаўскі раён — адзін з рэгіёнаў вобласці, дзе сёння найбольш складанае становішча беларускага слова ў навучальным школьным працэсе. Калі, напрыклад, у 1994—1995 гадах у Барысаўскім раёне ўсе першыя класы вучыліся па-беларуску, то цяпер там 8 першых класаў сталі вучыцца па-расійску. На расійскай мове выкладаюцца прадметы ў некаторых другіх і трэціх класах. Ну, а ў самім Барысаве з 70 беларускамоўных першых клас аў сёлета «з родным словам» засталіся толькі 18. Вынікае, што ў горадзе асноўнае пачатковае звяно вучняў практычна пераведзена ў расійскамоўнае навучальнае асяроддзе...

**— Я так мяркую, што гэткія чыноўнікі, як Вы, многія кіраўнікі школ апынуліся паміж молатам і кавадлам — патрабаваннямі Закона аб мовах і вынікамі сумна знакамітага травеньскага рэферэндуму. З аднаго боку, Закон ніхто не адмяняў. З другога — рэферэндум, ініцыяваны самім Прэзідэнтам. Як тут арыентавацца? Што рабіць?**

— Я думаю пра гэта. І мяркую, што Вярхоўны Савет новага склікання ўважліва прааналізуе тыя супярэчнасці, якія тут існуюць, ды прыме мудрае рашэнне. Скажу па шчырасці, нас гэта «кровазмяшэнне» вельмі хвалюе, і мы сёння працуем, каб усё ж вызначыць, якія канкрэтна школы павінны мець беларускі, а якія — расійскамоўны статусы. Некалі ж у гарадах, у гарадскіх пасёлках існавала рэальнае двухмоўе ў навучальным працэсе — адна школа была расійская, другая — беларуская. І ў расійскай школе не меласа беларускамоўных класаў, а ў беларускай — расійскамоўных. Проста быў адпаведны прадмет. Рэферэндум вызначыў, што ў нашым грамадстве шмат людзей карыстаюцца расійскай мовай, але рэферэндум не касаваў беларускае слова.

**— Старшыня парламента Сямён Шарэцкі, які, па чутках, паважае і любіць беларускую літаратуру, беларускую мову, сказаў, што беларусы не павінны губляць свой этнічны твар. Як Вы можаце пракаментаваць гэтую заяву?**

— Думаю, Сямён Георгіевіч Шарэцкі сказаў усё правільна, і паколькі ён мае такую думку, то беларуская мова абавязкова выжыве. У тым ліку — у выхаваўчым і навучальным працэсах нашых школ. Але ж і нам трэба не проста прывіваць любоў да роднага слова дзецям на ўроках мовы. Трэба кожнага чалавека змалку далучаць да сваіх жа каранёў, трэба, каб ён ведаў, адкуль ідзе яго род: хто ў яго дзед, прадзед, што яны рабілі, што збудавалі, за што змагаліся. Або — якая гісторыя вёскі ці вуліцы ў горадзе. Напрыклад, у Вілейскай гімназіі, калі выпускнікі здавалі экзамены па гісторыі, то адзін з пунктаў іспыту патрабаваў расказаць, што вядома гімназісту пра яго продкаў. Дзецям трэба закладваць у свядомасць уяўленне пра Дом. І той, у якім кожны з іх жыве сям'ёй. І пра наш агульны Беларускі Дом. Вось тады і ў дзяцей, і ў бацькоў з'явіцца цікаўнасць і цікавасць да роднага слова. Гэта мае асабістае перакананне. Буду рады, калі яшчэ ў каго ёсць свая тэорыя Адраджэння беларускай мовы.

*Год Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі*

## Зварот
### Нацыянальнага Арганізацыйнага Камітэта па святкаванні ў Беларусі 250-х угодкаў Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі

У 1996 г. спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі.

Ён нарадзіўся ў 1746 г. на беларускай зямлі ў фальварку Марачоўшчына Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства (цяпер Івацэвіцкі раён).

Усёжыццё Касцюшкі — яскравы прыклад самаадданага служэння ідэалам Свабоды і Дэмакратыі. Восем гадоў (1776—1784) ён змагаўся ў Амерыцы за незалежнасць ЗША, там стаў генералам, нацыянальным героем гэтай краіны. У 1792 г. Касцюшка стаў адным з 18 іншаземцаў, якім Заканадаўчы Сход надаў годнасць ганаровага грамадзяніна Францыі за тое, што яны «сваімі намаганнямі і адвагай спрыялі справе свабоды і падрыхтавалі вызваленне народаў». Імя нашчадка старажытнага беларускага шляхецкага роду з-пад мястэчка Косава стаяла ў адным шэрагу з такімі найвыдатнейшымі прадстаўнікамі народаў свету, як Вашынгтон, Шылер, Гамільтон і іншыя...

Вяршыняй жыццёвага шляху Касцюшкі стала кіраўніцтва вызвольным паўстаннем 1794 г. на тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Летувы, барацьбы за вызваленне народаў Вялікага Княства і Польшчы з-пад расійскага, аўстрыйскага і прускага ярма.

Гераічны водбліск паўстання 1794 г. і надалей асвятляў шлях да вызвалення народам былой Рэчы Паспалітай — беларусам, палякам, украінцам, летувісам. Мы, суайчыннікі Касцюшкі, ганарымся тым, што менавіта ён запаліў паходню Волі!

Гэтую выдатную дату будуць адзначаць у Польшчы, ЗША, Францыі, у іншых краінах.

Нацыянальны Арганізацыйны Камітэт абвяшчае 1996 год годам Касцюшкі і заклікае дзяржаўныя органы, грамадскія арганізацыі, навучальныя ўстановы, асяродкі культуры шырока адзначыць 250-я ўгодкі Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, выдатнага сына беларускай зямлі, годна ўшанаваць яго памяць.

**Нацыянальны Арганізацыйны Камітэт па святкаванні ў Беларусі 250-х угодкаў Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі.**

## Прашчуры. Бацькаў род

Славуты род Касцюшкаў сваю пісаную гісторыю пачынае ад Фёдара, які жыў у другой палове XV стагоддзя. Ён, верагодна, быў адукаваным мужам. Не багаццем, а менавіта сваім розумам і вучонасцю Фёдар выбіўся ў людзі, ды вывучыў сына Канстанціна. Адукацыю Канстанцін атрымаў, відаць, добрую, бо стаў працаваць у вялікакняскай канцылярыі Аляксандра Ягелончыка, вялікага князя ВКЛ, ды не абы-кім, а дзякам. На гэтай пасадзе Канстанцін праявіў сябе, бо неўзабаве атрымаў шчодрую ўзнагароду. У сямейным архіве Касцюшкаў захавалася грамата 1509 года, у якой засведчана, што «Жыгімонт, Божай міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі...» даў «дзяку нашаму Касцюшку Фёдаравічу... сяльцо ў Камянецкім павеце... Сяхновічы». Пазней Канстанцін Фёдаравіч атрымаў і шляхецтва. Як падае вядомы польскі даследнік Фелікс Канечны, фамільны герб Касцюшкаў называўся «Трэці Рог».

Вялікакняжаскі дзяк Касцюшка, відаць, вызначаўся не толькі розумам і працавітасцю. Не адной толькі пашанай у віленскай канцылярыі ды сярод суседзяў у Камянецкім павеце можна тлумачыць той факт, што Канстанцін Фёдаравіч ажаніўся з Ганнай, Гальшанскай князёўнай. Не гнаўся, пэўна, былы дзяк і за пасагам, бо цесць меў дзесяцёра дзяцей.

Канстанцін Фёдаравіч пакінуў сваім сынам пяць вёсак і чатыры



фальваркі. Малодшы ягоны сын Фёдар ажаніўся з недалёкай сваёй суседкай Сасноўскай. У іх нарадзіўся сын, якога назвалі Рыгорам (Грыгорыем), што, безумоўна, сведчыць на карысць нацыянальнай свядомасці і канфесійнай прыналежнасці першых Касцюшкаў. Рыгораў (памёр, верагодна, у 1618 годзе) сын Ян быў ужо пратэстантам, але Рыгораў унук Аляксандр (памёр у 1707 годзе) вядомы як «лацціннік». Верагодна, менавіта ён перайшоў на уніяцтва. Аляксандр Касцюшка страціў, верагодна, у часы «шведскага «патопу» сваю фартуну, бо ў тэстаменце запісаў: «Не застаецца пасля мяне ані золата, ані срэбра, апроч лыжкі срэбранай і паса» (мабыць, слуцкага. — З.С.). Але збяднелы сяхновіцкі шляхціч усё ж фундаваў будаўніцтва ў Сяхновічах капліцы, нібы, каталіцкай. Аляксандраў сын Амбросій, якому перайшоў родавы маёнтак, сплаціў сваім тром братам іх долю і застаўся адзіным гаспадаром. Ён удзельнічаў у паветовых шляхецкіх сейміках, а, будучы чалавекам палкага характару, не раз хапаўся за шаблю. Амброс Касцюшка памёр у 1722 годзе, перажыўшы трох сваіх сыноў. Чацвёрты, Людвіг, Тадэвушаў бацька, пераняў пасля бацькі ў 1722 годзе Сяхновічы, якія былі ўжо закладзеныя. Каб родавы маёнтак не трапіў у чужыя рукі, дзядзька Фаўстын Касцюшка выкупіў Сяхновічы. Папярэдне было дамоўлена, што калі Людвігназбірае грошай, то дзядзька дазволіць адкупіць родавы маёнтак.

Людвіг Касцюшка вылучаўся кемлівасцю, працавітасцю, пазбягаў раскошы, лічыў кожны грош. Ажаніўшыся з Тэкляй з Ратомскіх, Людвіг Касцюшка не пасаг, 12 тысяч польскіх злотых, прызначыў пазычаць тым, каму тэрмінова былі патрэбныя грошы, ведома, маючы намер атрымаць і працэнт — зрабіўся як бы зямельным банкірам. Але ён не мог жыць без зямлі, а таму ўзяў у арэнду фальварак Марачоўшчыну. Менавіта тут Людвік і Тэкля пражылі самыя цяжкія (на абед часта былі жытнія крупы) і самыя шчаслівыя гады. У Марачоўшчыне нарадзілася іх чацвёра дзяцей: Ганна (у 1741 годзе), Юзік (1743), Кацярына (1744) і Андрэй.

З.С.

*Беларускае замежжа*

# Эмігранты сумуюць па Беларусі, але мала хто вернецца

***Тамара Рыгораўна Новікава з ліку тых сціплых і нястомных працаўнікоў на ніве беларускай культуры, якія самаахвярнай працай набліжалі дні нашага кароткага адраджэння. Пасля заканчэння педінстытута ў 1967 г. працавала ў ПТВ, менскіх школах, навукова-даследчым інстытуце педагогікі. Апошнім месцам працы перад ад'ездам на сталае жыхарства ў Амерыку (1994) стаў Менскі інстытут удасканалення настаўнікаў. Аўтар і сааўтар дзесяткаў прац, у тым ліку дапаможнікаў для настаўнікаў, прысвечаных методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе. Ставіла мэту дапамагаць калегам-прадметнікам метадычнай літаратурай і выхоўваць на адпаведным дыдактычным матэрыяле нацыянальную свядомасць у моладзі. Горкі роздум пра лёс беларускай нацыі і культуры зведала ўпершыню, працуючы ў школе: абуралі адносіны школьных улад, якія праводзілі дзяржаўную палітыку, да беларускай мовы. Шараговая ўдзельніца ўсіх адраджэнскіх свят і мерапрыемстваў, такіх, як Гуканне вясны, Купалле, Дзяды, 25 сакавіка, Чарнобыльскі шлях, сходкі «Талакоўцаў», і інш. Дэлегат Устаноўчага з'езда БНФ «Адраджэньне» і дэлегат II з'езда ТБМ імя Скарыны.***

**— Тамара Рыгораўна, асабіста мне шкада, што беларуская культура страціла ў Вашай асобе шчырага працаўніка. Цяпер Вы — эмігрантка, жыхарка горада Кліўленда і маеце магчымасць назіраць жыццё беларускай калоніі, так бы мовіць, знутры. Што Вы пра яго скажаце?**

— Людзі эмігрыруюць па розных прычынах: эканамічных, сацыяльных, палітычных, асабістых. Для многіх з іх расстанне з радзімай — трагедыя, бо яны ўжо пасля не могуць наведваць родныя мясціны, сваякоў і сяброў. Для мяне такая магчымасць не страчана і пераезд у Амерыку не стаў трагедыяй. Шчыра кажучы, не лічу сябе эмігранткай, бо засталася грамадзянкай Беларусі, з ёю звязана шматлікімі непарыўнымі ніцямі. Прычына майго пераезду ў ЗША асабістая: я стала жонкай Міхася Белямука з Кліўленда. Ацэньваць жыццё беларускай калоніі мне яшчэ рана. Больш магу расказаць пра тых, з кім вывучаю англійскую мову ў школе — пра так званую новую эміграцыю са статусам бежанцаў. Гэта пераважна яўрэі, баптысты, дысідэнты — былыя грамадзяне былога СССР і, у прыватнасці, Беларусі. Скажу адразу, што іх лёс незайздросны. Я не маю на ўвазе тых, хто прыязджае ў Амерыку з добрым веданнем англійскай мовы. Гэтая катэгорыя эмігрантаў можа атрымаць добрую работу і праз 4—5 гадоў набыць уласны дом. Але вельмі цяжка жыць тым, хто не ведае дзяржаўнай мовы. Мужчыны тады працуюць у горшых варунках, прыкладам, у вячэрнія змены на фабрыках або шафёрамі, жанчыны — прыбіральшчыцамі ў офісах або па догляду састарэлых і дзяцей. За тую грашовую дапамогу, якую атрымліваюць ад дзяржавы ў якасці бежанцаў, яны могуць, праўда, добра харчавацца, купіць патрыманую машыну. Але на ўласную вучобу і вучобу дзяцей у прыватнай школе сродкаў, ведама, не хопіць. Гэтыя людзі сумуюць па бацькаўшчыне і па сваіх блізкіх, але вяртацца не хочуць, бо ў перспектыве ўсё ж у іх лепшае жыццё. Іх дзецям пры ўмове, што яны старанна вучацца, дзяржава дапамагае бясплатна набываць адукацыю ў каледжах, атрымліваць розныя прафесіі.

**— Па якому прынцыпу складваюцца эміграцкія асяродкі?**

— Эмігранты групуюцца па нацыянальнай прыналежнасці або па прыналежнасці да пэўнай рэлігіі: беларусы трымаюцца беларусаў, в'етнамцы — в'етнамцаў, яўрэі — яўрэяў, баптысты — баптыстаў і г.д. Што да беларускай пасляваеннай эміграцыі, то яе гісторыю добра ведае мой муж, які заснаваў кліўлендскую калонію сурodзічаў. Не многія з гэтых людзей атрымалі добрую адукацыю і сталі заможнымі людзьмі. Ёсць мільянер Лук'янчык, добра жывуць тыя, якія скончылі каледжы і універсітэты, а затым працавалі ў багатых кампаніях, напрыклад, на заводзе Форда. Але такіх беларусаў у Кліўлендзе няшмат.

Групуюцца нашы суайчыннікі вакол царквы Жыровіцкае Божае Маці і культурна-асветніцкага цэнтра «Полацак». Кожную нядзелю прыхаджане бачацца ў царкве. Але ў храме людзі не толькі моляцца, а і ладзяць угодкі нацыянальных свят (напрыклад, Слуцкага паўстання, Грунвальдскай бітвы), сустрэчы з гасцямі, адзначаюць вялікія царкоўныя святы (Каляды, Вялікдзень і інш.). У такіх выпадках пасля царкоўнай службы ў падцаркоўнай зале адбываецца пачастункі і так званая акадэмія. Масавыя мерапрыемствы праходзяць у цэнтры «Полацак» ва ўрачыста прыбранай зале, дзе збіраецца да 200 гасцей. У «Полацку» праходзяць міжнародныя з'езды і сустрэчы, адзначаецца свята 25 сакавіка, ладзіцца навагоднія карнавалы.

**— Ці працуе беларуская школа ў Кліўлендзе?**

— Была такая школа пры царкве. Аднак пасля таго, як змяніўся святар, яе не стала. Засталася толькі ўкраінская гімназія.

**— Якой Вы бачыце сваю будучыню ў Кліўлендзе?**

— Ад'язджаючы ў Амерыку, я мела намер працаваць у часопісе «Полацак» — выданні, заснавальнікам і фундатарам якога з'яўляецца мой муж. У мяне ёсць вопыт навуковай працы, ёсць веды, і я збіралася працягваць працу на карысць беларускай культуры. Аднак здарылася непрадбачанае: Міхась Белямук быў выкінуты з рэдакцыйнай калегіі і ў дадатак да ўсяго абдураны супрацоўніцай з новых эмігрантаў. Дзякуючы гэтай акцыі, якую можна ўмоўна назваць «чалавечая няўдзячнасць», мы з мужам страцілі магчымасць працаваць у часопісе. Сёння я бачу для сябе іншы шлях: далучыцца да працы мужа, які займаецца сфрагістыкай, нумізматыкай, геральдыкай і дойлідствам Беларусі. У адной са сваіх публікацый я, дарэчы, выкарыстала выдатны тэкст Белямука, прысвечаны Каложскай царкве ў Гародні. Муж піша ўспаміны, пачатак якіх друкаваўся ў «Полацку». З майго пункту гледжання яны цікавыя і каштоўныя, паколькі асвятляюць гісторыю беларускай эміграцыі, падаюць факты і звесткі пра дзейнач беларускага замежжа. Хачу далучыцца да гэтай працы ў якасці рэдактара -стыліста.

**— Мне вядома, што Вас са спадаром Белямуком абручаў мітрапаліт Філарэт і з гэтага часу Вы з Уладыкам падтрымліваеце знаёмства. Вы і цяпер з ім сустракаліся?**

— Я сустракалася з мітрапалітам ужо двойчы пасля таго, як выехала з Беларусі. Раблю гэта па даручэнні мужа, які перадае для праваслаўных цэркваў ладан і просіць памаліцца за беларусаў, што жывуць за акіянам, а таксама памаліцца за Беларусь, каб яна пераадолела цяжкі эканамічны крызіс і захавала незалежнасць. Гэта Уладыка і зрабіў у маёй прысутнасці. Памаліўся.

У выніку абмену, які існуе паміж бібліятэкай Белямука і нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, мы атрымалі кнігі з серыі «Наши духовные ценности» на расійскай, беларускай і англійскай мовах з прадмовай мітрапаліта Філарэта. Гэта выдатнае выданне, беларускае дойлідства асвятляецца на яго старонках аб'ектыўна.

**— І Вы падзякавалі, мабыць, мітрапаліту Філарэту за яго працу над серыяй?**

— Падзякавала, тым больш, што атрымала ад яго ў падарунак кнігі «Праваслаўныя святы» і «Праваслаўнае дойлідства». Мы з мужам вельмі ўсцешаны яшчэ і тым, што гербам Беларускай праваслаўнай царквы стаў Крыж Ефрасінні Полацкай.

**— Што Вам найбольш прыгадваецца з мінулага?**

— Апошнія гады, апошнія падзеі. Усё, што адбывалася пасля восемдзесят пятага года: як захаплялася творчасцю Караткевіча, як распаўсюджвала самвыдатаўскую літаратуру, сустракалася з Мікалаем Ермаловічам і людзьмі з аргкамітэта БНФ, наведвала вечарыны ў Доме літаратара, прысвечаныя лепшым сынам Беларусі, наведвала універсітэт і тэатральна-мастацкі інстытут, дзе ладзіліся сустрэчы адраджэнцаў з грамадскасцю, наведвала лекцыі Міхася Ткачова, Міхася Чарняўскага, Зянона Пазьняка, Юрыя Хадыкі, ездзіла ў Ракуцёўшчыну на свята Багдановіча і ў Вязынку на Купалле. Быў час, калі даводзілася адначасна працаваць у Менскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у Політэхнічнай акадэміі — ў групах, якія фармаваліся з прафесарсказ-выкладчыцкага складу, і ў Міністэрстве замежных спраў, дзе міністрам Пятром Краўчанкам былі арганізаваны курсы беларускай мовы для супрацоўнікаў. Працавала я тады па 10—12 гадзін у дзень. Для мяне выкладанне беларускай мовы было свядомым актам патрыятызму, бо абурала вайна з «нацыяналістамі», абураў вандалізм, з якім паўсюдна знішчаліся беларускамоўныя асяродкі.

**— І тады, у час найвялікшага прасвятлення, Вы звярнуліся да Бога?**

— З вялікай любоўю да Яго прыйшла. А ўпершыню спавядалася ў ксяндза Яна Матусевіча, святара уніяцкай царквы, у якога бывала дома. Ён гуртаваў вакол сябе моладзь, а прыцягваў сваёй эрудыцыяй, беларускасцю, нацыянальнай свядомасцю.

**— Дзякую, Тамара Рыгораўна, за гутарку, зычу поспехаў у здзяйсненні творчых задум, а таксама асабістага шчасця.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

# ВЕРУЕМ

## «Голас Душы»

У нядзелю, 28 студзеня, праграма «Голас Душы» зноў з'явілася ў радыёэфіры. Але, як стала вядома з вартых даверу крыніц, дамова паміж адміністрацыяй беларускага радыё і стваральнікамі радыёперадачы да гэтага часу не падпісаная. Аб далейшым развіцці падзей газета будзе інфармаваць сваіх чытачоў.

**А.НЕВЯРОЎСКІ.**

## Рубрыка патрэбная

Як вернік я за працяг рубрыкі «Веруем», але самую назву лепей бы даць у сучасным беларускім напісанні — «Верым».

**Сяргей БОГУШ.**

*Што для мяне малітва*

## Зварот душы да Бога

Добры дзень і добрага здароўя тым, хто чытае мой ліст! Сёння нядзелька, я прыйшла з царквы. На душы спакойна і светла. Хадзіла я памінаць сваю мамачку і брата. Як хораша і добра, што спадар Ялугін звярнуўся да чытачоў «Нашага слова» за парадай наконт рубрыкі «Веруем». Хачу выказаць сваё меркаванне.

Маё дзяцінства выпала на той час, калі ўжо «ўнукі» Леніна знішчылі цэрквы, пераплавілі званы на сярпы і молаты, спалілі іконы і каштоўныя кнігі. А нас вучылі, што няма ў чалавека душы, няма Бога над намі, ёсць толькі адна мэта жыцця: светлая будучыня — камунізм. Сёння мы ўжо добра бачым, да чаго прывяло такое вучэнне. Царква заўсёды вучыла дабру, рабіла настаўленні дзецям і моладзі.

Рубрыка «Веруем» таксама робіць настаўленні. Яна разлічана на любога чытача. Калі ў чалавека маўчыць душа — рука не напіша. Мне давялося назіраць, як каля ўваходу ў царкву маладая жанчына прывіталася са старэйшай словамі «прывет, падруга». На што тая адказала, што верyючаму чалавеку трэба здаровацца па-чалавечы, жадаючы здароўя, укланіўшыся. Думаю, што ў школе настаўніца не зробіць заўвагі на такое прывітанне.

У розныя часы жыцця ў чалавека розныя адносіны да Бога. Чым сталей чалавек, тым больш патрэбы.

Мы яшчэ не прывыклі маліцца адкрыта. Усё здаецца, што нехта сочыць за намі, таму што так было заўсёды. А між тым, малітва — гэта зварот душы да Бога, каб Яго праслаўляць або прасіць, перапрашаць і дзякаваць Яму. Малітва лучыць нас з Богам. Шчырая малітва заўсёды дае чалавеку сілы і надзею. Другі год мы святкуем нараджэнне Хрыстова, пяём хвалу Усявышняму. Ён чуе нас і не дасць нам згінуць.

**P.S.** Я звычайны, грэшны чалавек. На жаль, як і мае аднагодкі, скалечана «мудрай» ідэалогіяй.

**Алена ЛЯГУН.**
г.Пінск.

## Патаемны сэнс

«Ойча наш...». Тэкст гэтай малітвы — звароту да Бога — адзін з самых старажытных, бо паўстаў ён яшчэ напачатку новай эры. Але, у адрозненне ад іншых малітваў, гэтая ў перакладзе на беларускую мову мае варыянты. Розныя пераклады падаюць яе па-рознаму. Вось як гучыць адна і тая ж цытата з яе: «...і адпусці нам грахі нашы, як і мы адпушчаем вінаватым нашым» (з малітоўніка для беларусаў, выдадзенага ў 1946 годзе ў Рыме). «Беларускі праваслаўны малітоўнік», выдадзены ў 1990 годзе ў Таронта кансісторыяй Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, падае іншы варыянт: «... і выбач нам правіны нашы, як і мы выбачаем вінаватым прад намі». Надрукаваны ў 1992 годзе ў Варшаве «Малы катэхізм» змяшчае тэкст малітвы, адпаведны выданню, зробленаму ў Рыме. Адкуль жа ўзялося гэтае адрозненне — супрацьпастаўленне паняццяў грэху і віны ў агульным для ўсіх хрысціян тэксце?

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба згадаць, што падставай да стварэння малітвы «Ойча наш...» паслужылі цытаты з двух сінаптычных Евангелляў: «І даруй нам даўгі нашыя, як і мы даруем даўжніком нашым...» (Лука, 11, 4); «І даруй нам даўгі нашыя, як і мы даровуем даўжніком нашым» (Мацей, 6, 12). Гэтыя цытаты, прыведзеныя з выдання «Новы Запавет і псальмы. Таронта, Канада, Глабальнае місіянэрскае радыёслужэньне, 1985» могуць, на першы погляд, зрабіць тэкст малітвы яшчэ менш зразумелым, бо ў іх гаворыцца пра доўг, а не пра віну ці грэх. Але трэба памятаць, што мы маем справу не з арыгінальным тэкстам малітвы ці Евангелляў, а толькі з яго беларускім перакладам, які, як і кожны пераклад, можа розніцца з першасным тэкстам. Дык, што пісалі ў Дабравесцях апосталы, які ж выгляд мае аўтэнтычны тэкст «Ойча наш...» і які выгляд павінен мець беларускі пераклад гэтых словаў?

І ў часы Старога, і ў часы Новага Запавету паняцці доўгу, віны і граху былі звязаныя між сабою значна больш цесна, чым сёння. Большасць з людзей, ад імя якіх звяртаўся да Бога Збаўца, былі незаможнымі ці рабамі: наогул, рабы ў той час складалі вялікі слой грамадства. А галоўнай прычынай звяртання чалавека ў рабства была завінавачанасць яго іншаму чалавеку. Рабамі станавіліся не толькі тыя, што завінаваціліся — за правіны бацькі ў рабства прадавалі сына. У грэкаў і рымлянаў гэты звычай у часы Хрыста быў шырока распаўсюджаны. Дастаткова згадаць, што калі ў 105 годзе да н.э. Рым звярнуўся з просьбай аб вайсковай дапамозе да манархаў Малой Азіі — сваіх хаўруснікаў, дык атрымаў адказ валадара Віфаніі Нікамеда: набор у войска немагчымы, бо амаль усе абываталі краю звернутыя ў рабства за нявыплату падаткаў таму ж Рыму. Сенат зрабіў надзвычайныя захады і вярнуў свабоду грамадзянам, народжаным свабоднымі, ДАРАВАЎШЫ ІМ ЗАВІНАВАЧАНАСЦЬ.

У III стагоддзі да н.э. спартанскі валадар Клеамен III вырашыў у сваёй дзяржаве перадзяліць зямлю, СКАСАВАЦЬ ПРАВІННАСЦІ ды ВЫЗВАЛІЦЬ ЗВЕРНУТЫХ У РАБСТВА сялян. Выгнаны сваімі праціўнікамі з краю, ён хаваўся ў егіпецкай Александрыі, спрабаваў узняць паўстанне супраць Пталемея IV, а пасля няўдачы забіў сябе. Каб застрашыць яго ных прыхільнікаў, цела Клеамена прыбілі да крыжа, выставілі перад народам. Уражаныя людзі абвясцілі былога валадара, які хацеў іх вызваліць, сынам Бога.

Каля 250 года да н.э. ДАРАВАЦЬ ЗАВІНАВАЧАНАСЦЬ бяднейшым грамадзянам абяцаў сіракузскі тыран Агафокл. Ён спадзяваўся з гэтым рашэннем — у горадзе ўзняўся бунт, ахвярамі якога сталі звыш 4000 чалавек — тых, што раней пазбаўлялі свабоды іншых.

Менавіта свабоду абяцаў даць сваім вучням і Хрыстос, але што прасіў ён дараваць людзям, звяртаючыся з малітвай да Бога — грэх ці правіны? Бо ва ўсіх перакладах Новага Запавету тэксты «Ойча наш...», акрамя недасканалага беларускага, розняцца: у тэксце евангеліста Мацея гаворыцца пра даўгі, а ў Лукі Збаўца просіць дараваць людзям іхнія грахі. Тым не менш, гэтыя разначытанні маюць тлумачэнне. У мове кайнэ, якой напісаны Евангеллі, слова «даўгі» дзве тысячы гадоў таму пачало набываць другасны сэнс, які датычыў сферы маралі. Паняцці доўгу і граху перадаваліся адным словам, гэтак жа сама, як гэта адбываецца і ў сучаснай беларускай мове, дзе ёсць слова «віна». «І адпусці нам правіны нашыя», — гаварыў Хрыстос. Кожны з двух евангелістаў зразумеў яго па-свойму.

Біблійныя тэксты прасякнуты шматзначнасцю. Таму ў малітве «Ойча наш...» сустракаецца яшчэ адна фраза, сэнс якой можна тлумачыць па-рознаму. Гэта словы, непасрэдна звязаныя з тымі, што разглядаліся раней: «Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння».

Ці шмат хто, механічна паўтараючы гэту фразу, задумваецца над яе сэнсам? Навошта ў малітве, з якой людзі звяртаюцца да Бога, чакаючы яго прыйсця, нечаканая просьба аб хлебе?

Але ж яшчэ св. Геранім, аўтар нарматыўнага лацінскага перакладу Бібліі, разважаў: ці не будзе больш дакладным пісаць не «штодзённага», як робім гэта мы, і не «сённяшняга» (гэтае слова ўжываецца ў лацінскім тэксце «Новага Запавету»), а «заўтрашняга»? Бо менавіта гэта — і «сённяшні», і «заўтрашні» — можа перакладацца слова з мовы кайнэ, ужытае ў Евангеллях.

Варыянт «заўтрашні» цалкам змяняе сэнс тэксту. Бо ж «Ойча наш...» — гэта пацвярджэнне чалавекам ягонай веры і чаканне ім валадарства Божага: імя Айца будзе праслаўлена, валадарства яго будзе на небе і на зямлі... А наступныя словы набываюць іншы змест: хай гэтае валадарства, патрэбнае, як хлеб, надыдзе не заўтра, а сёння: «Хлеба нашага НАДЗЁННАГА дай нам сёння і адпусці нам ПРАВІНЫ нашыя» — даруй нам грахі і зрабі нас свабоднымі сёння, а не заўтра. Аб гэтым просім мы Бога, звяртаючыся да яго.

**Падрыхтаваў У.П.**

## Ці аб'ядняюцца хрысціяне свету?

Кіраўнік Рымскай каталіцкай царквы Ян Павел II заклікаў каталікоў і праваслаўных хрысціян пераадолець сцяну, якая іх раздзяліла, і стаць на шлях адзінства. Выступаючы перад вернікамі з традыцыйнай нядзельнай пропаведдзю з балкона на плошчы Святога Пятра ў Рыме, ён выказаў спадзяванне, што ў надыходзячым трэцім тысячагоддзі ад нараджэння Хрыстова нарэшце наступіць доўгачаканае аб'яднанне розных галін хрысціянскага веравучэння.

**«Голас Амерыкі».**

## Стрэчанне-Грамніцы

15 лютага адзначаецца свята, якое на Беларусі носіць назву Грамніцы, або Стрэчанне, а ў царкоўным календары — Стрэчанне Госкае. Што ж гэта за свята? Згодна энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі», «Грамніцы — зімовае свята народнага календара. Мяркуюць, што назва паходзіць ад паганскага бога Грамаўніка (Перуна) — бога веснавых навальніц і дажджоў, якія спрылі расліннасці. Паводле іншых меркаванняў, Грамніцы названыя так таму, што Юрай нібыта выпрабоўвае на нячыстай сіле свае стрэлы і менавіта з гэтага дня ўжо можна пачуць грымоты. Другая назва Грамніц — Стрэчанне — тлумачыцца, як «стрэча» зімы з летам («Грамніца — зімы палавіца»)... Асноўным рытуалам на Грамніцы было асвячэнне ў царкве свечак.... Грамнічныя свечкі (грамніцы) шанавалі ў народзе: іх запальвалі ў навальніцу, каб маланкі не спалілі хату; давалі хвораму ў час агоніі, выкарыстоўвалі як уяўны лячэбны сродак ад галаўнога болю; падвешвалі ў хляве ці стайні, каб нячыстая сіла не шкодзіла хатняй жывёле».

А як жа трактуе гэта свята хрысціянская традыцыя? Звернемся па тлумачэнні да багаслова Аляксандра Меня.

Свята прыпадае на 40-ы дзень пасля Ражаства, 2 (15) лютага. Яно было ўведзенае Ерусалімскай царквою ў IV ст., а з V сталася паўсюдным.

Славянскае слова «стрэчанне» («сретение») азначае «сустрэчу». У евангельскай гісторыі гэта нібы сустрэча Старога і Новага Запаветаў.

Згодна апавядання св. Лукі, адбылася яна ў Ерусалімскім храме.

Майсееў закон загадваў спраўляць над кожным першынцам мужчынскага полу абрад пасвячэння Богу. Калі Немаўляці Ісусу споўнілася 40 дзён, Язэп і Марыя панеслі Яго ў Дом Божы. Яны стаялі сярод іншых сем'яў, у чаканні сваёй чаргі, і ў гэты момант да іх наблізіўся стары Сымон, які жыў пры Храме. Ён належаў да лікі тых, хто горача верыў у хуткае прышэсце Месіі. Старому было прадказана, што ён яшчэ пры жыцці ўбачыць Выратавальніка свету. І цяпер Дух Божы паказаў яму на сямейную пару бедных галілеянаў. Сымон узяў на рукі іх Дзіця і пачаў маліцца: «Цяпер адпускаеш раба Твайго, Уладару, па слову Тваійму, з мірам; бо бачылі вочы мае выратаванне Тваё, якое Ты падрыхтаваў перад абліччам усіх народаў, святло да прасвятлення паганцаў і славу народа Твайго Ізраіля».

Пасля, прадбачачы барацьбу, якая разгарыцца вакол імя Ісусава, стары дадаў: «Вось, ляжыць гэты на падзенне і на паўстанне многіх у Ізраілі... ды адкрыюцца памысленні многіх сэрцаў». А Маці прадказаў: «Табе Самой зброя пратне душу».

У гэтых словах заключаны ўвесь крыжовы шлях Дзевы: ад пустэльных вуліцаў начнога Батлеема да Галгофы. Ужо ў першыя гады жыцця Сына ёй давялося хвалявацца за Яго: трывожная вестка пра забойства, якое рыхтуецца, паспешлівае бегства, стамляючае падарожжа ў чужую краіну, жыццё далёка ад радзімы — такі пралог евангельскай гісторыі. Але ніколі не вырвалася ў Марыі ані слова скаргі.

І вось святое сямейства зноў у Назарэце. Здаецца, усе навальніцы праміналі. Аднак ці можна сцвярджаць, што за гэтыя гады сэрца Маці заўсёды было спакойнае? Адзіны эпізод з падлетковых гадоў Ісуса, захаваны Евангеллем, гаворыць пра іншае. Якія пакутныя гадзіны правяла Дзева Марыя, калі адшукала Сына, які знік у шматлюдным горадзе!.. «Дзіця Маё! Што ты зрабіў з намі? Вось бацька Твой і Я з вялікай скрухай шукалі Цябе!» — кажа Яна Сыну.

Нарэшце Ісус пакінуў Назарэт для таго, каб ніколі больш не вяртацца ў родны дом. Марыя засталася адна ў гарадку, дзе Яе Сына лічылі вар'ятам. А калі Яна прыйшла ў Капернаўм — толькі зірнуць на Ісуса, — натоўп перашкодзіў ёй увайсці ў дом...

І так — на працягу амаль трох гадоў. Яна сочыць за Ім здаля, пакутуе за Яго, моўчкі нясе Сваю скрушную мацярынскую долю. Марыя чуе, што Ісусу ўвесьчасна пагражае небяспека, даведваецца, што Ён накіраваўся ў самы стан праціўнікаў, у Ерусалім, дзе старэйшыны і архірэі рыхтуюць яму расправу. І Маці Божая спяшаецца туды разам з галілейскімі паломнікамі.

У Страсную пятніцу меч сапраўды працяў ёй душу. Стоячы ля Лобнага месца, яна бачыла сына на ганебным слупе, бачыла Яго прыбітыя рукі, чула Яго апошнія словы, калі Ён даручаў Яе клопатам улюбёнага вучня. Яна стала названай маці Іаана і разам з ім нібы ўсынавіла ўсіх вучняў Хрыстовых.

Не выпадкова дзень Стрэчання ў царкоўнай традыцыі лічыцца не толькі святам у гонар Хрыста, але і «Багародзічным». Ён нагадвае нам пра зямны подзвіг і пакуты Божай Маці...

**Падрыхтавала Л.Ш.**

## Хрысціянства і сацыялізм

У наш час, калі грамадства праяўляе павышаную цікавасць да розных рэлігійных плыняў і эзатэрычных ведаў, нярэдка робяцца параўнанні між імі. І філасофы-дылетанты прыходзяць да нечаканых вынікаў. Напрыклад, даволі распаўсюджаная думка пра роднаснасць пастулатаў сацыялізму і хрысціянства. Думкі пра гэтую роднаснасць узніклі ў чалавецтва ад самага пачатку ўзнікнення сацыялістычнай тэорыі. Цікава прывесці разважанне на гэтую тэму расійскага філосафа, пісьменніка В.Розанава, які, як вядома, неадназначна ацэньваў хрысціянства, не з'яўляючыся ягоным апалагетам і не адмаўляючы яго, але сацыялістам не быў дакладна. Вось што ён пісаў у сваім творы «У цёмных рэлігійных промнях»: «Спрабавалі (і спрабуюць) спалучыць хрысціянства з сацыялізмам: няма большай супрацьлегласці ! Сацыялізм — увесь у трывалай упэўненасці пра зямлю. Хрысціянства ж ёсць поўная безнадзейнасць пра ўсё зямное! Сацыялізм — хлебны, евангелле — бясхлебнае. Сацыялізм — дзень, калі ўсе рэчы маюць дакладныя свае памеры і дакладны свой выгляд: «хрысціянства ж усё — ноч («вось Жаніх прыйдзе апоўначы»), калі рэчы зменены, прывідныя, не бачныя ў рэальных абрысах, і затое набываюць велізарныя фантастычныя формы. Без мары і снабачання і без прысутнасці ў чалавеку здольнасцяў снабачання — хрысціянства не было б, і яно было б немагчымае. Яно ўсё заснаванае на нерэальным, звышрэальным у чалавеку: адбярыце гэта — і хрысціянства няма!

Сацыялізм жа ўвесь змагаецца супраць гэтага надрэальнага: выдаліць яго ў чалавека — сутнасць яго! Як жа яны зліліся б, злучыліся? Гаварыць гэта можна было б толькі да скіравання ўвагі на «цёмныя промні» ў хрысціянстве, якія знаходзяцца па-за «відочным спектрам» яго; пакуль думалася, што «хрысціянства ёсць белы просты свет» зычлівасці да чалавека, і сацыялізм таксама ёсць «белы просты свет» «дабрадзейнасці», дык чаму б ім і не «супасці»? «Абодва жадаюць дабра чалавеку».

Так.

Але сацыялізм хоча сытага чалавека — у якога праца і сон без снабачанняў.

Хрысціянства перш за ўсё хоча снабачанняў; яно хоча чалавека, які плача, які любіць сваю журбу.

Розніца — у сутнасці, і — невымерная.

А вы, шаноўныя чытачы, ці пагадзіліся б з такой трактоўкай хрысціянства і суадносінаў яго з тэорыяй сацыялізму?

**Падрыхтавала Л.Ш.**

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## *Сказана — звязана*

*Сказана — звязана. Сказаў, як звязаў. Сказаў, як адрэзаў. Сказаў, як нажом адсек.* Так беларусы характарызуюць упэўненае, зместава важкае і ладнае формай выказванне. Яму нагодай звычайна бывае праблемная, складаная сітуацыя, пэўная жыццёвая акалічнасць прыватнага ці дзяржаўнага, афіцыйнага кшталту. Ва ўзаемадачыненнях людзей упарадкаванне, унікненне ці вырашэнне спрэчных пытанняў залежыць ад умення вылучаць і падкрэсліваць сваёй прамовай самае сутнаснае, вызначальнае. Эмацыянальны тон выказвання, яго слоўнае афармленне аднолькава залежыць ад сітуацыі і ўнутраных уласцівасцяў асобы, яе сацыяльнага статуса, маўленчых навыкаў і моўнага чуцця. Згаданыя моўныя і пазамоўныя фактары складвання прамовы вызначаюць стылёвую разнастайнасць старажытных тэкстаў — першых узораў беларускай стылістыкі.

Прыкладам увасаблення сітуацыйна-індывідуальных рыс з'яўляецца арганізацыйна-распарадчы дакумент з выразнай стылёвай дыферэнцыяцыяй, правобраз сучаснага пратакола судовага рашэння — «Грамата смаленскага князя Фёдара Расціслававіча аб звоне 1284 года».

Мова граматы надзвычай лаканічная, выразная і строгая, бо адлюстроўвае афіцыйнасць, рэгламентаванасць абставін. Перададзены працэдурныя асаблівасці суда — адзначаны суддзя, акрэслена сутнасць справы, названы прозвішчы падсудных і прысутных прадстаўнікоў смалян і немцаў.

Рашэнне афармлена ад імя першай асобы — князя, які надзелены паўнамоцтвамі суддзі. Хоць тэкст граматы пабудаваны паводле пэўных афіцыйных стандартаў, аднак ён дае даволі выразнае ўяўленне пра асобу князя — уладарнага, упэўненага, рашучага чалавека. Стыль тэксту сведчыць таксама пра княжую стрыманасць, строгасць, катэгарычнасць, і калі меркаваць з прадстаўніцтва суда, справядлівасць. Кожнае слова граматы ўзважанае і змястоўнае: ***«Се язъ*** [я] ***князь Смоленскыи Феодоръ судилъ есмь Бирелясъ Армановичемь про колоколъ про немецьскыи».***

Паслядоўнасць і лагічнасць выкладу вызначаюць дакладнасць і выразнасць мовы. Паводле закона логікі аб трэцім выключаным, з двух падсудных адзін прызнаны вінаватым, а другі — правым, што афармлена супастаўляльнай канструкцыяй з супраціўным злучнікам **а**: ***«Бирель правъ, а Арманович виноватъ».*** Адзначана пакаранне: ***«Выдал есмь Армановича и съ двороМь немцомъ*** [немцам] ***за колоколъ».***

Найбольшы аб'ём тэксту складае пералік прысутных: ***«А ту*** [тут] ***были на суде со мною бояре мои: Григорь намѣстьникъ, Данило, Артемии, Микула Дядковичь, Лука околничии, Путята Дядковичь. А отъ немець были на суде, искали колокола Янъ, Альбрать изъ Брюньжвика, Геньци, Яганъ Варендоръпръ. — Моисѣи княжь печатникъ Федоровъ печаталъ*** [пячатку прыклаў].

Дакумент датаваны ў тагачасных справаводчых традыцыях, а ў канцы названы, кажучы сучаснай тэрміналогіяй, «судовы сакратар»: ***«А Федорко писець княжь псалъ».***

У моўным плане звяртае на сябе ўвагу захаванае з аналагічным значэннем у сучаснай беларускай літаратурнай мове слова **намѣстьник** [намеснік] і ўласцівыя беларускай словаўтваральнай сістэме прозвішчы **Армановичь, Дядковичь** (з канцавым **-іч**). І гэта натуральна, бо старажытная Смаленшчына непасрэдна звязана з беларускай культурай, сведчаннем чаго з'яўляецца энцыклапедычнае выданне «Живописная Россия» (С.-Петербург, Москва, 1882 г.), дзе ў раздзел «Беларускае Палессе» ўключаны нарыс С.В.Максімава «Беларуская Смаленшчына з суседзямі».

Зместавая насычанасць слова — важная адзнака моўнага майстэрства. Ужытыя без патрэбы словы робяць выказванне груваскім, невыразным, вялым, штучным. Такая шматслоўнасць абазначаецца фраземай *ліць ваду,* а мову з пустымі, без тэкставага зместу словамі называюць *вадзяністай.* Максім Лужанін такую загрувашчанасць акрэсліў як *слоўнае шалупінне.* У сваім артыкуле «Мова ў газеце» ён цытуе сказ з афіцыйнага тэксту: *«У сувязі са склаўшыміся абставінамі выявілася поўная немагчымасць выканаць сяўбу жыта ў вызначаныя тэрміны».* Пісьменнік заўважае: «Каб і хацеў, не прыдумаеш нязграбней! А ўсю гэтую складаную канструкцыю можна замяніць кароткім і людскім сказам: *«Абставіны склаліся так, што пасеяць жыта ў час было нельга».* Варыянт Максіма Лужаніна больш кампактны, змястоўны і натуральны. Можна прапанаваць іншыя: *«З уважных прычынаў не паспелі пасеяць жыта», «Складаныя ўмовы не дазволілі пасеяць жыта ў тэрмін»* і г.д. Галоўнае, каб за выказваннем стаяла ясная і зразумелая думка.

Каб пазбегнуць заганнай шматслоўнасці, неабходна ўважліва ставіцца да кожнага слова, пераконвацца, што яно нясе нейкую інфармацыю, дадае ў змест нешта новае, інакш пустыя словы заценяць сэнс. Вас цяжка будзе зразумець. Напрыклад, канцылярскае словазлучэнне *ў склаўшыхся абставінах* не больш інфарматыўнае за граматычную форму слова той жа стылістычнай прыналежнасці *ў абставінах* — сціслую, дынамічную і натуральную. Гэта трэба ўлічваць, каб выбіраць найбольш прыдатныя сродкі выказвання і захаваць нават у самым рэгламентаваным і сухім афіцыйна-справавым стылі сваю манеру.

Культура мовы

Павал СЦЯЦКО

# На месцы сваіх словаў — штучныя пазычанні

**Дублёрны склад** (каманды) — а не **дубліруючы састаў** (каманды). У «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962, с. 254) чытаем: «Дубліруючы прил. дублирующий; дубліруючы састаў каманды — дублирующий состав команды». Ці ёсць тут беларускі пераклад? Не, яго няма: у беларускай частцы бачым толькі напісанае па-беларуску. Расійскай дзеепрыметнікавай словаўтваральнай мадэлі «аснова дзеяслова плюс суфікс -ущ- (-ющ-), -ащ- (-ящ-), -ем-, -им- у беларускай мове адпавядае іншая мадэль — «назоўнікавая аснова плюс суфікс -н- або -ов- (-ав-)». Параўн.: абслуговы (персанал) — обслуживающий, слізготны — скользящий, навакольны — акружающий, пераважны — преобладающий і г.д. Гульцы, што выступаюць не ў асноўнай камандзе, а як **дублёры** і ўтвараюць **дублёрны склад** каманды. Але падчас ціску камуністычнае ідэі на зліццё нацыяў і іх моваў слоўнікі 60—80 гадоў на месцы сваіх беларускіх словаў ставілі ўсесаюзныя пазычанні — з расійскай мовы. Артыкул, змешчаны ў згаданым слоўніку, прадубляваны і ў «Беларуска-рускім слоўніку». 1988 г. (т. 1, с. 392). Бачым гэтае штучнае «дубліруючы» і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 2. Мн., 1978, с. 206). Ненатуральнасць яго відаць ужо з самога тлумачэння значэння слова: «Дубліруючы... які з'яўляецца **дублёрам**. Дубліруючы састаў каманды». Але раз «з'яўляецца дублёрам», то і павінна быць **дублёрны**: дублёрны склад каманды, г.зн. каманда складаецца з дублёраў, з'яўляецца дублёрам асноўнай.

**Ахвотныя, ахвочыя, ахвотнікі** — а не **жадаючыя.**

Натуральнае для беларускай мовы «Запрашаем тых, хто **мае ахвоту**». Ад гэтага актуальнага слова — **ахвота** — дзеля скарачэння тэксту і бярэцца вытворнае слова **ахвотныя** ці **ахвочыя** (хто мае ахвоту). Таму натуральна гучыць: «Запрашаем ахвотных (ахвочых)», «Прыйшлі ахвотныя (ахвочыя)» — а не «прыйшлі жадаючыя, запрашаем жадаючых». Слова «жадаючыя» — штучная калька рас. **желающие.** Беларускай мове, як ужо згадвалася, дзеепрыметнікі цяперашняга часу неўласцівыя. Да таго ж, слова **жадаць**, як справядліва сцвярджае доктар Ян Станкевіч, мае значэнне «страстно хотеть» («Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік». Нью-Ёрк, 1990. — С. 477). У родных гаворках Зэльвеншчыны я нідзе не чуў гэтага жадаю 'хачу', а толькі як непахвальнае: «О, зажадаў нябеснае манны! Давай яму, хоць разарвіся». (в.Грабава). Параўнаем у Дубоўкі: «...шлях у жыццё ім шырока адчынен і да навукі, да ўсякай работы, абы ты здольнасці меў і **ахвоту**». «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 2. Мн., 1978, с. 247) слова **жадаць** і перакладае «**хацець** што-небудзь ажыццявіць, зрабіць, займець», а **жаданне** як «хаценне чаго-н., **ахвота**». Адсюль і вынікаюць натуральныя адменнікі гэтага калькаванага **жадаючы** — (той, хто жадае) — **ахвотны, ахвочы, ахвотнік.** У згаданым слоўніку (ТСБМ, т. 1., Мн., 1977, с. 307) чытаем: «**Ахвотны**... Які мае ахвоту на што-н., схільны да чаго-н. Кукарэка, ахвотны да размовы, падрадзіўся ісці і паказаць дом старшыні. Грамовіч. **Ахвочы**... Які выказвае ахвоту, жаданне на што-н., да чаго-н. і пад. Малодшы Марцін да гаспадаркі не быў ахвочы. Карпюк. **Ахвотнік**... Той, хто мае жаданне заняцца чым-н., узяцца за якую-н. справу. Чэмер рад быў бы з кожным пагаварыць, ...але, не знаходзячы ахвотніка, гаварыў сам з сабою. Вітка.

Як бачым, натуральнымі ў беларускай мове выступаюць адмысловыя словы **ахвотны, ахвочы, ахвотнік**, а не штучная калька **жадаючы.**

Гэтую асаблівасць нашае мовы ўжо заўважыў трохтомны «Русско-белорусский словарь» 1993 года, дзе эквівалентам да **желающий** падаецца і слова **ахвотнік** (т. 1, с. 425).

**Нябачанка** — а не **невідзімка**. Слова «невідзімка» — пазычанне з расійскае мовы, дзе яно — **невидимка** — суфіксавае ўтварэнне ад **невидимый (невидим-ка).** Слова **невидимый** перакладаецца на беларускую мову словамі **нябачны, непрыкметны.** «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953, с. 299) падае наступны пераклад: «**Невидимка** I. фолькл. невідзімка; шапка-невидимка — шапка-невідзімка; быть невидимкой — быць **нябачным;** стать невидимкой — стать **нябачным. Невидимка** II ж. (шпилька) шпилька ж.». Тут асобна падаецца і форма творнага склону з значэннем прыслоўя: «**Невидимкой** з знач. нареч. **нябачна** (невидимо); употай (украдкой); непрыкметна (незаметно)». Як відаць, слова «**невідзімка**» выступае толькі як фальклорнае. У «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962, с. 510), на жаль, ужо скрозь бачым гэтую «невідзімку»: «невідзімка 1. м. и ж. невидимка; 2. ж. (шпилька) невидимка». Поўнасцю прадубляваны гэты артыкул у двухтомным перавыданні (т. 1., Мн., 1988, с. 775).

У перавыданнях РБС-53 гэты артыкул застаўся без зменаў (РБС-82, т. 1, с. 512; РБС-93, т. 2, с.184).

Аналізуючы ўсе вытворныя ад **невидимый** і іх пераклад на беларускую мову, пераконваешся ў недарэчнасці гэтай «невідзімкі». Бо скрозь выступае беларускі адпаведнік «**нябачны**». Адсюль вынікае і натуральнае беларускае **нябачанка.**

В.Ластоўскі рас. **невидимка** перакладаў як **няўгледка.** Шапка-няўгледка. Няўгледкай у хату ўвайшоў (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна. 1924. — С. 264).

Штучнасць гэтай **невідзімкі** выразна выяўляецца і ў яе семантызацыі ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы». У трэцім томе яго (Мн., 1979, с. 353) чытаем: «Невідзімка... — істота, якая мае здольнасць быць **нябачнай** // у знач. прысл. невідзімкай(аю). **Нябачна,** непрыкметна».

Калі гэта істота, якая мае здольнасць быць **нябачнай,** то і павінна называцца так: «**нябачанка**», г.зн. тая, якую нельга ўбачыць.

Сваю выразную матывацыю гэтае слова мае толькі ў расійскай мове: «**Невидимка...** какое-либо существо или предмет, способное становиться **невидимым...**» (Словарь русского языка. В 4-х томах. Том II. Изд. 2-е., М., 1982. — С. 427).

Як бачым, семантызацыя слова невідзімка паказвае на ненатуральнасць яго ў беларускай мове і вымагае сапраўдную яго форму — **нябачанка** (ці няўгледка).

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЛЁСКАТ** (шум, які ўтвараецца ад падзення, цячэння вады або вадкасці ці ад удару чым.-н. па паверхні вады або вадкасці) *Учуўшы плёскат вады, Генька пабяжыць праз кусты, прадзярэцца праз лапушысты дзядоўнік, каб хутчэй дабрацца да мяккага жоўтага пяску* (Дзятлаў). *Яшчэ начамі рэчку ў зорах Будзілі плёскатам самы, — Калі стары вандроўнік-жораў Пачуў пагрозны дых зімы* (Кірэенка), **ПЛЁСК** *У гэты момант пачуўся плёск, нібы хто кінуў у раку камень* (Ваданосаў). *Цікавыя расказы старога, часты плёск рыбы, пакрэктванне драча ў аеры, думкі пра нейкую незвычайную рыбу «цюхцяй» адганялі сон* (Ляўданскі), **ПЛЁСКАННЕ** *Сёй-той плаваў, імкнучыся дабіцца да берага. Але густая посцілка туману праглынала іх, і толькі чуваць было бязладнае плёсканне на вадзе* (Лынькоў), **ПЛЕСКАТА́ННЕ** *З-за кустоў даносілася плескатанне рэчкі,* **ПЛЕСКАТНЯ́** размоўнае *Несціхана-ўз'юшаная плескатня прыбою блытае думкі, збівае з тропу* (Масарэнка), **ПЛЯСК** разм. *У чароце чуецца пляск і чвяканне* (В.Вольскі), **ПЛЯСКА́ННЕ** разм. *Наўкола была такая ціша, што плясканне рыбы ў рэчцы было чуваць за некалькі ганей* (Чарот), **ПЛЮ́ХАННЕ** разм. *Некалькі разоў пасярэдзіне ракі пачынаўся шум, плюханне, нібы сапенне; потым пачаў варушыцца нейкі велізарны звер, але да берага не падыходзіў* (Маўр), **ПЛЮ́ХАТ** разм. *Людзей, якія тут працуюць, не палохае ні плюхат вады, ні нямая глухата нетраў* (Паслядовіч), **ПЛЮХ** разм. *Мянтуз раптам нечакана робіць рэзкі рух хвастом угару, і рыбаловы чуюць моцны плюх* (Звонак), **ПЛЮХЦЕ́ННЕ** разм. *Хвалі сіняе вады ў Вялікай Неўцы аднастайным плюхценнем адгукваліся на працэсы непарушнай працы* (Гартны). *А плоткі браліся, не зважаючы на выдрынае плюхценне* (Брыль), **ПЛЮХАЦЕ́ННЕ** разм. *Чуецца плюхаценне рачулкі,* **ПЛЮ́ХКАННЕ** разм. *З канавы даносілася плюхканне вады,* **ПЛЁХАННЕ** *Пачулася буркатлівае плёханне вады пад нагамі* (Паслядовіч). *Вада была зусім блізка; цьмяная вада зрэдку паблісквала скрозь вішняк, і адтуль далятала гучнае, але бязладнае плёханне вёслаў і нечы смех* (Савіцкі), **ПЛЁХКАННЕ** разм. *Размернае плёхканне вясла паступова аддалялася, аддалялася* (Ставер), **ПЛЁХ** разм. *Мне нават крыху шкада стала няўдалага рыбака [мядзведзя]. Гэта ж трэба думаць — так стараўся, так працаваў, столькі плёху нарабіў, небарака, і ўсё дарэмна* (Ляўданскі), **ПЛЁХКАТ** разм. *Стараецца Васіль. Хоць і парадкам Касу вядзе — размашыста і лёгка, А ўжо, глядзі, распарыўся ў лапатках, і ўжо карціць туды, дзе Начы плёхкат* (Зуёнак) **ПЛЮ́СКАТ** *Данёсся новы вясёлы крык, потым плюскат, зачарнеўся човен і пад'ехаў Манг* (Маўр), **ПЛЮСКАТА́ННЕ** *У разгортванні апавядання было штосьці ад плюскатання ручаіны: вось яна, закруціўшыся на завароце, ударылася ў бераг; вось струмень пабег павальней* (Лужанін), **ПЛЮСКАЦЕ́ННЕ** *З возера даносілася плюскаценне хваль,* **ХЛЮ́ПАННЕ** *Чулася толькі хлюпанне вады ды шуршанне леташняй асакі* (Шчарбатаў). *Недзе берагам прабеглі. З хлюпаннем падалі ў ваду ашмоткі зямлі* (Асіпенка). *Пачуўшы хлюпанне ног па вадзе, чалавек прыпыніўся і азірнуўся* (Жычка), **ХЛЮ́ПАТ** разм. *Цімка з моцным хлюпатам выскачыў на лёд* (Гамолка). *Нарэшце [селянін] нешта ўлавіў... Хлюпат конскіх ног па топкай грэблі* (Бядуля), **ХЛЮПАТА́ННЕ** разм. *Чулася хлюпатанне вады ў ручаі,* **ХЛЮПАЦЕ́ННЕ** разм. *Мы стаялі ля крынічкі і слухалі хлюпаценне вады.*

**Плёск.** У якасці англ. адпаведнікаў да гэтага вельмі багатага сінанімічнага рада ў беларушчыне, большасць якога складаюць размоўныя адзінкі, можна прывесці два: **splash** і **plop.** Абодва гэтыя словы характарызуе гукавы сімвалізм. Відавочна, гэта можна сказаць і ў дачыненні да бел. *плюх, плёх, пляск.*

**ПЛЁТКІ** мн. (размовы, неправераныя або лжывыя чуткі пра каго-, што-н.) *Гадзюкай паўзлі па вёсцы плёткі, абгаворванні, злосныя чуткі, кпіны* (Чорны), **АБГАВО́РЫ** мн. (абмеркаванне, часцей нядобразычлівае, з усімі дробязямі чыіх-н. паводзін, учынкаў і пад.) *У часе гэтых сесій-збораў Было нямала абгавораў І розных штучак, жартаў, кпінак, Ліхіх і добрых успамінак* (Колас), **ЗВОН** разм. (плёткі, якія распаўсюджваюцца адкрыта і шырока) *Не хацеў ён [Пятро] чуць таго звону, што ўжо яго Улляна разнесла па сяле, злосна крыючы яго пацягайлам і блуднем* (Ракітны). — Параўнайце: Ч у т к а.

**Плёткі.** Як і бел. *плёткі, абгаворы* англ. сінонімы **gossip** і **tittle-tattle** (разм.) ужываюцца толькі ў мн. ліку.

Беларускае Адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Наўгародскі прыточнік 1431 года

Дакладная назва слоўніка-прыточніка 1431 года «Толъкованіе неудобъ познаваемомъ въ писаныхъ речемъ, понеже положены суть рѣчи въ книгахъ отъ началныхъ преводникъ ово Словенскы, и ино Сръбскы, и другаа Блъгарскы и Гръчьсны, их же неудоволишася преложити на Руский». Ён быў укладзены ў рукапіс, знойдзены на гары Лісічай каля Ноўгарада. Лексікаграфічны помнік плённа развівае традыцыі старажытных *гласарыяў* і *слоўнікаў-амасціконаў* і яго складальнік рыхтуе глебу для пераходу да тыпу *вытворніка*. Пазней гэты тып слоўніка знайшоў больш шырокі попыт у часы кніжнага выпраўлення, у эпоху ўдасканалення кананічных перакладаў.

Наўгародскі прыточнік 1431 года роднасны і тыпу *размоўнікаў*, асабліва слоўніку славянскага аўтара XV ст., які жыў на Афоне, — «Рѣчь тонкословія греческаго». Лексікон складаецца з тэматычнага пераліку слоў, а таксама асобных фразаў і ўрыўкаў з дыялогаў. Для гісторыі славістыкі помнік цікавы як адна з самых дакладных крыніц па вывучэнні побытавай лексікі сярэднегрэцкай мовы.

З прадмоў да слоўнікаў вядома, што складальнікі іх усведамлялі сябе не столькі тлумачальнікамі лексікі, колькі, у першую чаргу, збіральнікамі гэтых тлумачэнняў, дарэчы, усведамляючы пры гэтым увесь цяжар і карысць гэтай місіі. Тлумачэнні, якія трэба было сабраць, сустракаліся і ў саміх тэкстах, а таксама былі раскіданы на палях і паміж радкоў рукапісных кніг, існавалі і ў выглядзе асобнага пераліку. Яны змяшчаліся ў слоўніках усіх папярэдніх напрамкаў старажытнаславянскай і старабеларускай лексікаграфіі, а таксама ў даволі пашыраных зборах, якія аб'ядноўвалі некаторыя з гэтых слоўнікаў. Ішло паступовае зліццё ўсіх разнастайных тэндэнцый і напрамкаў лексікаграфічнай думкі.

Наўгародскі прыточнік 1431 года нібыта (ствараецца такое ўражанне) дае ўдакладненне царкоўнаславянскіх слоў царкоўнаславянскаю моваю, але на самай справе рэестравыя словы старабеларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы паступова набліжаюцца да народнай стыхіі ў тлумачальным адпаведніку.

Гэты працэс зараджэння і складвання народных і нацыянальных моў назіраецца амаль паўсюдна ў Еўропе. Напрыклад, першыя англійскія слоўнікі-гласарыі мелі на мэце даць тлумачэнне на англійскай мове незразумелым ці цяжкім лацінскім словам, якія сустракаліся ў лацінскіх рукапісах або біблейскіх кнігах. У гэтых элементарных рукапісных двухмоўных (лаціна-англійскіх і англа-лацінскіх) гласарыях VII—XIV стст., безумоўна, усведамлення нормы, у адрозненне ад старабеларускай традыцыі, не было. У лексіконах даюцца англасаксонскія адпаведнікі цяжкім ці незразумелым лацінскім словам.

Найбольш вядомы сярод такіх слоўнікаў і блізкі па часе стварэння да наўгародскага прыточніка 1431 года — «Скарбніца для адукаванай моладзі» 1440 года. Гэты англа-лацінскі гласарый дзеліць рэестравыя рады на дзве групы: «імёны» і «дзеясловы». Пабудова кожнага слоўнага артыкула даволі простая: англійская лексема і яе пераклад на лацінскую мову: Above. Supra, superius. Старабеларускі прыточнік вылучаецца больш дасканалай сістэмай тлумачэння, у ім нават прысутнічаюць элементы энцыклапедычнай падачы матэрыялаў:

**Смерчь, піавица** — облакъ дъждевенъ, иже воду отъ морѣ възимаетъ, яко губу и пакы проливаетъ на земля.

У лексікалагічных класіфікацыях іменаў XIV ст. ужо, відаць, сярод агульных найменняў вылучалі і адцягненыя:

**суетно** — кромѣ потребы нѣкося, бываемое праздно: яко имя убо есть, вещь же нѣсть.

Загадка многіх старажытных слоў з так званым паэтычным арэолам якраз у тым, што гэта словы з яшчэ незатоенай відавочнай *унутранай формай*. У такім слове вобразная прыкмета, прадметнасць, што леглі ў аснову яго наймення, яшчэ выразна відныя. Гэта досыць шырокае кола слоў з *адкрытай* ці *прыкрытай* унутранай формай. Праз старажытнае слова мы нібы ўгадваем патаемную сувязь моўных пачаткаў і канцоў, роднасць сучаснага слова з яго ўтваральным першакоранем дзякуючы чаму, відаць, і падтрымліваецца ў нас пачуццё мовы як жывога арганізма.

Так, тлумачальныя адпаведнікі рэестравай лексеме **доблесть** аднаўляюць усе адценні гэтага амаль забытага слова — *крѣпость, мужъство,* дадаючы пры гэтым і тонкі акцэнт — *лукавъство.*

У старажытнабеларускім лексіконе 1431 года прысутнічаюць элементы герменэўтычнага тлумачэння. Рэестравы выраз **великодуменъ есть** развіваецца ў тлумачальнай частцы зусім у рэчышчы ісіхасцкай традыцыі, — *иже на вьсѣку скръбь приражающуяся могый понести,* бо толькі чалавек, які шмат перанёс і выпакутаваў, здольны зразумець няшчасце іншых, спачуваць ім у здарэннях і падзеннях. Пра тонкі талент экзэгета сведчаць таксама наступныя слоўнікавыя артыкулы:

**душевный блудъ** — *ересь и нечестіе;*
**бесловеснъ** — *кромѣ слова нѣкотораго и вины;*
**кыченіе** — *высокорѣчіе славы ради.*

Сярод пазычанняў наўгародскага слоўніка вельмі шмат словаў сербскага паходжання. І гэта натуральна, бо справаводства сярэдневяковых уладароў Сербіі першай паловы XIII ст. каралёў Радаслава і Уладзіслава, вядомая грамата Куліна Бана 1189 года сведчаць пра існаванне пісьмовай нацыянальнай мовы ў XIII ст. Зразумела, што сербская мова ўжывалася ў тэкстах, змест якіх быў звернуты да шырокіх чытацкіх колаў, бо яны разумелі толькі народную нацыянальную мову.

На жаль, наўгародскі прыточнік 1431 года захаваўся часткова, толькі 61 рэестравы радок з 200. Пазнейшыя лексікографы плённа скарыстоўвалі вопыт слоўніка пры складанні «Сінонімы славенароскай», «Лексікона славенароскага», шматлікіх азбукоўнікаў.

# ДАРОГА ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

## *Да 75-годдзя з дня нараджэння Івана Мележа*

8 лютага гэтага года культурная грамадскасць Беларусі адзначыць 75-гадовы юбілей народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа. Спадчына, якую пакінуў пісьменнік, шматлікая і разнастайная: апавяданні, аповесці, раманы, п'есы, нарысы, артыкулы, эсэ. Галоўнай кнігай Івана Мележа даследчыкі па праву называюць класічны твор беларускай (і не толькі) літаратуры «Палескую хроніку», трылогію, што складаецца з раманаў «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань». У гэтым творы асабліва ярка праявілася моўнае майстэрства Івана Мележа. Ён знайшоў сваю манеру выкарыстання дыялектнай лексікі, узбагачаючы мову мастацкага твора і не абцяжарваючы яе. Тут можна казаць пра асаблівае адчуванне музыкі мовы, што выказваў і сам пісьменнік: «Пішу на роднай мове з любоўю, з душэўным уздымам. Беларуская мова ласкавая, мілагучная, як песня. Я чую тое, што пішу, як музыку, з мелодыяй, з рытмам. Бывае, чытаю ўслых напісанае. Востра сачу, каб у мелодыі мовы твора не было фальшу...» Так адказваў пісьменнік у 1972 годзе на пытанне балгарскага карэспандэнта пра стаўленне да мовы як сродку мастацкай прозы.

Іван Паўлавіч Мележ быў сапраўды народным пісьменнікам. Ён змог выказаць у сваёй творчасці тое, чым адрозніваецца беларускі народ сярод іншых народаў, перадаць своеасаблівую яго ментальнасць, прыгажосць душэўную і фізічную яго прадстаўнікоў, паказаць і тыя яго рысы, што перашкаджаюць яму на шляху да шчасця. Гэта нельга выдумаць, калі гэтага няма ў табе самім. У Івана Мележа ёсць такая фраза: «Відаць, трэба пісаць перш за ўсё аб тым, што асабліва дорага душы, што хвалявала і хвалюе, — што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі».

Мова твораў Івана Мележа вывучаецца, аналізуюцца тыя сродкі, якімі ён дасягаў яе выразнасці, адметнасці. Тут і трапна ўжытыя дыялектызмы — словы-перліны з роднай палескай гаворкі пісьменніка, эмацыянальна-сэнсавае вылучэнне дзеясловаў, персаніфікацыя прадметаў, з'яў, нечаканыя метафарычныя эпітэты, майстэрская індывідуалізацыя мовы... Даследчык У.Юрэвіч падкрэслівае: «І.Мележ умее з усяго багацця роднай мовы выбраць тое адзінае слова і паставіць яго ў адзіна магчымую сувязь з іншымі, каб падзейнічаць на ўяўленне і павярнуць чытача ў тым адзіным кірунку, які сфарміраваўся ў пісьменніка, калі ён вывучаў, пазнаваў рэчаіснасць і ўзнаўляў яе ў творы».

Івана Мележа хвалявала не толькі мастацкая вартасць роднага слова. Яго хваляваў стан беларускай мовы ў Беларусі, яе далейшы лёс. Пра гэта ён пісаў у шматлікіх артыкулах, эсэ, гаварыў са старонак перыядычнага друку. Шчодра дзяліўся і сваім пісьменніцкім майстэрствам — уменнем ствараць дыялогі, індывідуалізаваць мову герояў і г.д. Вучыўся і сам — вядомыя яго даследаванні творчасці К.Чорнага, таксама выдатнага майстра слова.

Сёлета, 9 жніўня, споўніцца дваццаць гадоў з дня смерці Івана Мележа. «Творчая дарога, мне здаецца, гэта дарога ў полі між лясоў, дарога цераз выспы і брады, дарога па звычайнай зямлі», — пісаў Іван Паўлавіч, маючы на ўвазе і творчасць увогуле, і ўласны пісьменніцкі шлях. Сёння мы можам сказаць, што шлях пісьменніка Івана Мележа прайшоў сапраўды па яго роднай зямлі, не абмінаючы яе выспаў і брадоў, яе радасцей і бедаў, набыткаў і стратаў. І плён яго творчасці назаўсёды застанецца ў нашай літаратуры, як самы каштоўны скарб.

**Л.Ш.**

Меркаванні

# Калі святкаваць юбілеі?

Няцяжкае, на першы погляд, пытанне. Калі надыдзе «круглая дата», — даты і святкаваць. Так, дарэчы, шмат хто і робіць. Вядомая справа, адзначаць падзеі можна штогод. Але якія ўрачыстасці мы маем права называць гэтым прыгожым словам — юбілей? У перыядычных выданнях можна напаткаць звесткі пра юбілеі 65-гадовыя, 40-гадовыя, з нагоды 15-га нумара часопіса, 5 год стварэння прадпрыемства. І, вядома, пра юбілейныя святкаванні падзей, гадавіны якіх дзеляцца на дваццаць пяць. Трэба адзначыць, што такі разнабой пануе ў выданнях беларуска- і расійскамоўных, а таксама ў радыёперадачах. «Беларуская савецкая энцыклапедыя» (1974) слова «юбілей» ніяк не тлумачыць. Між тым, у іншых даведніках яго этымалогія прасочваецца ад падзей, апісаных у Старым Запавеце. Ва ўсходнеславянскія мовы слова трапіла і з лацінскай — iubilaeum. Пачатковае лацінскае iubilaeus annus у сваю чаргу было запазычана ў старажытнагабрэйскай jôbêl — «барáні рог». (Фасмер М. Этимологический словарь русского языка. М. Прогресс», 1987; Brockhaus Enzyklopädie. Mannheim). Паводле законаў Майсея ў кожнае пяцідзесяцігоддзе гукамі бараняга рога абвяшчалі земляробам і пастухам аб надыходзе «года адпушчальнага».

Новы сэнс набыло святкаванне юбілеяў пасля надання ім статута ўрачыстасцяў клерыкальных. Папа Баніфацый VIII абвясціў 1300-ы год юбілейным і кожны грэшнік, што прыехаў у Рым на 15 дзён і штодня маліўся там у храмах святога Пятра і святога Паўла, ачышчаўся ад грахоў сваіх і шанаваўся потым царквой нараўне з крыжакамі. Спачатку кіраўнікі каталіцкай царквы планавалі адзначаць юбілеі раз у сто гадоў. Але жадаючых пазбегнуць адказнасці за злачынствы ў сярэдневяковай Еўропе было столькі, што за кароткі тэрмін у Рыме перабыло пад 2 мільёны чалавек. Прыбытак царквы ад пілігрымаў быў такім спакусліва вялікім, што Клімент VI устанавіў юбілей ужо праз кожныя 50 гадоў, Урбан VI — кожныя 25 гадоў. Папа Баніфацый IX за свой параўнальна кароткі тэрмін кіравання каталіцкай царквой (1389—1404) адсвяткаваў нат два юбілейныя гады: у 1390 і ў 1400 гадах. (Kluge F. Etymologisches Wörterbuch der deutschen Sprache, 1967; Лозинский С.Г. История папства. М. 1986).

Здаецца, што ў наш час амаль безагляднага ўжывання слова «юбілей» можна арыентавацца ў гэтым пытанні на слоўнік Уладзіміра Даля, дзе дадзена кароткая, ёмістая фармулёўка: «Юбілей — урачыстасць, святкаванне з нагоды пяцідзесяцігоддзя, стагоддзя, тысячагоддзя». Тое, што калі большасці каму на гэтым свеце пашанцуе адзначыць свой асабісты юбілей толькі раз, не павінна засмучаць. Гэта сапраўды тое свята, што бывае адзін раз у жыцці. Да таго ж, нам пашанцавала. Адсвяткуйма разам, самы што не ёсць юбілейны, год двухтысячны!

**Міхась МАХНАЧ.**
г.Смаленск.

# МОВУ ТРЭБА АДЧУВАЦЬ...

***Чытачам восьмай старонкі «Нашага слова» добра знаёмыя пародыі Міхася Скоблы. Міхась — не толькі парадыст, ён таленавіты паэт. Сёння чытач мае магчымасць пазнаёміцца з нашым аўтарам бліжэй. Карэспандэнт Алесь Карлюкевіч задаў Міхасю некалькі пытанняў на тэму, якая для нашага выдання з'яўляецца дамінантнай — лёс беларускай мовы.***

**— Быць беларускім пісьменнікам, паэтам і галасаваць фактычна супраць беларускай мовы — такое, канешне ж, немагчыма ўявіць. Таму і не пытаюся, як ты галасаваў на сумнавядомым рэферэндуме. Але чаму супраць дзяржаўнасці аднае роднае мовы прагаласаваў беларускі народ?**

— Беларускі народ не галасаваў супраць беларускай мовы. Народ у нас хоць і памяркоўны, але кемлівы. Людзі пабачылі, што ўся наша дзяржаўная беларусізацыя дае ледзь прыкметныя вынікі, і вырашылі пайсці іншым шляхам. Усе галасавалі за наданне беларускай мове роўнага статуса з расійскай. А на практыцы гэта азначае, што беларускую мову трэба як яшчэ падымаць дзеля гэтае роўнасці. Кіраўнікі дзяржавы, якія, звычайна, лёгка знаходзяць паразуменне з народам, на гэты раз выслухалі паспаліты люд і зрабілі ўсё наадварот. Народ гэткага відавочнага махлярства не забудзе і адпомсціць. На наступных выбарах.

**— З цягам часу — мо ізноў гадоў праз семдзесят? — сітуацыя можа змяніцца. І тады, будзем спадзявацца, успыхне новая хваля беларускага адраджэння. Ты верыш, што надарыцца беларускаму народу шанц сапраўды дачакацца ўсё ж такі новай хвалі Адраджэння? Не згубілі назаўсёды тое, што мелі, што маем?**

— Я адраджэнне трошкі інакш разумею. Неяк раптоўна ўбачылася, што ў шматлікіх маіх знаёмых і сяброў нашчадкі на свет з'явіліся альбо чакаюцца. Я таксама стаў бацькам, маю трохмесячную дачку Сафійку. Нават у Багданкевіча сын нарадзіўся — пра гэта ўсе газеты пішуць. Калі яшчэ і Пазьняк не падвядзе... Усе, хто хадзіў на пляцы і махаў сцягамі, урэшце зразумелі, што адрадзіць краіну, высока падняўшы сцяг над выміраючым народам, немагчыма. Так што з усіх хваляў адраджэння, мяркую, гэтая, сямейная, станецца канчатковай і вырашальнай. Праз пэўны час.

**— Міхась, ты ўсё ж такі, пэўна, смелы чалавек, бо займаешся вершатворчасцю ў небяспечным жанры. Дык скажы — толькі шчыра — ці не вінаваты ў гібенні роднай мовы і пісьменніцкая інфантыльнасць, нежаданне літаратараў умешвацца і ў палітычны бок справы?**

— Жанр пародыі, вядома, не зусім бяспечны. Некаторыя паэты сапраўды крыўдзяцца. Праўда, у вочы мне ніхто ніколі рашучага пратэсту не выказаў і з аглобляй на дарозе не падпільноўваў. А мо мае рацыю Уладзімір Арлоў, які склаў аднойчы эпіграму: «Паэтаў беларускіх шобла//Са страхам думае пра Скоблу»?.. Наконт пісьменніцкай інфантыльнасці... Я не лічу, што пісьменнікі, якія працуюць у Доме кнігі на праспекце Машэрава, павінны па чарзе выбягаць і класціся пад прэзідэнцкі картэж. Яны павінны пісаць кнігі. А ў гібенні мовы вінаватыя ўсе, у тым ліку і пісьменнікі. Рэдкі паэт сёння ведае мову дасканала.

Людзі паміж сабою могуць паразумецца на мігі. Але з роднай зямлёй, роднай ракой, тысячагадовай дубровай можна дамовіцца толькі праз родную мову. Іншай яны проста не чуюць. Калі гаварыць з космасам на трасянцы, на сапсаванай мове, паразумення таксама не будзе. Мова — як музычны інструмент, не наладзіш — не возьмеш патрэбнае ноты — сімфонія можа не атрымацца. Некаторыя паэты, не могучы выкшталціць сваіх радкоў, рызыкуюць быць непачутымі космасам.

Ці ёсць, напрыклад, у гэтай паэткі адчуванне мовы:

Шатан ненавідны —
у ночы. У ночы
Хадзяка нахожы
і скідзень — мярэц.
Марэньня яны не пачуюць,
не ўсочаць
І кленц...

Падазраю, што вершы яна складае, выхопліваючы па слоўцу са слоўнікаў, прычым, з самых розных — ад Крапівы да Ластоўскага. А крытыка маўчыць. Прыходзіцца «біць у званы» парадысту...

*(Пародыі М.Скоблы чытайце на 8-й старонцы.)*



# «Маланка» смаліла што два тыдні

А пачала яна бліскаць пасярод зімы: першы нумар выйшаў 15 студзеня 1926 года. Вось што пісалася ў рэдакцыйным звароце:

«Грамадзяне! У дні нашага сумнага жыцьця, калі з усіх старон нашай Заходняй Беларусі даносяцца галасы нараканьня, калі падаткі страшэнным цяжарам ціснуць чалавека, калі дарагоўля вядзе беднату да жабрацтва і амаль да руіны, **калі школы, — родныя беларускія школы, вынішчаны ў пень,** калі цемната шырыцца хуткім тэмпам і, адным словам, калі жыцьцё штораз горшае і горшае, а паправы ніскуль не відаць, і калі траціцца нават надзея на лепшую, сьвятлейшую будучыню, а чалавека агортвае роспач, — у гэтую пару нарадзілася «Маланка», каб нясьці радасьць, надзею і пацеху кожнаму працаўніку, каб чытаючы «Маланку» забываў ён пра ўсё сваё гора, а сьмяяўся шчырым, чыстым і здаровым сьмехам».

Спадзяёмся, што «Маланка» будзе час ад часу бліскаць на гэтай старонцы «Нашага слова». А сёння падамо адзін з яе жартаў.

**«Вось дык даў.**

— Надовечы на мяне напаў Лявон, дык я яму даў... Вось дык даў!

— А чаму ў цябе валасы павырываныя?»







## Дом літаратара запрашае

| | | |
|---|---|---|
| 8 лютага чацвер | Першы беларус у Краіне ўзыходзячага сонца. Вечар памяці вучонага-філолага, падарожніка і дыпламата Восіпа Гашкевіча | 18.30 Вялікая зала |
| 14 лютага серада | Вечарына, прысвечаная 90-м угодкам выдатнага гісторыка Мікалая Улашчыка | 18.30 Вялікая зала |
| 22 лютага чацвер | «Мой белы дзень» Аўтарская вечарына народнага паэта Ніла Гілевіча | 18.30 Вялікая зала |
| 27 лютага аўторак | Секцыя прозы | 15.00 Канферэнц-зала |
| 27 лютага аўторак | Прэм'ера дакументальнага фільма рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава па сцэнары Рыгора Барадуліна «Акафіст Уладзіміру» | 18.30 Вялікая зала |
| 28 лютага серада | Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва | 15.00 Канферэнц-зала |
| 29 лютага чацвер | Галасы Прыдзвіння Вечарына сяброў Полацка-Глыбоцкай літаратурнай філіі Саюза беларускіх пісьменнікаў | 18.30 |

**Сардэчна запрашаем!**
г. Менск, вул. Фрунзе, 5.
Тэл. 36-09-09.
Уваход вольны.

## І шляхта паважае дысцыпліну

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ ШЛЯХТЫ**
Беларусь 220102, Менск-102, а.с. 212.



Згуртаванне беларускае шляхты распаўсюдзіла паведамленне, што сп.Леанід Акаловіч, які займаў раней пасады намесніка старшыні і галоўнага сакратара, выключаны са складу Згуртавання за сталае невыкананне сваіх абавязкаў і адмову падпарадкоўвацца рашэнням найвышэйшае рады.

**Л.М.**

*І смех і грэх*

***Бачанае «У Лявона»***

# Пад Стары Новы год

Спадарыня Ляля, ад нядаўна бывальніца шынка «У Лявона», распавяла, як сёлета там сустракалі Стары Новы Год.

Сабраліся ўсе свае. Было вельмі весела — ногі самі ў скокі ішлі: надта ж музыка адмысловая была — спецыяльна знакаміты гурт запрасілі. А да таго ж адзін аматар шынковых страў прывёз з палявання зубраў хвост. Так, так. Палявала, разумееце, цэлая брыгада, усе стралялі, а чый трапны стрэл спыніў пушчанскага волата — высветліць не ўдалося. Казаў сябра, што там сярод паляўнічых быў адзін пракурор, дык ён крыміналістаў з Менска выклікаў. Але тыя чамусьці ў зубрыным целе не тое каб кулі, шрацінны не знайшлі... Давялося дзяліць на ўсіх. Тулава тыя забралі, хто ў шынок да Лявона ніколі і не ходзяць, а рэшту — кінулі жэрабя. Нашаму сябруку пашэнціла выцягнуць хвост.

Сам галоўны Лявонаў кухар узяўся за гатаванне такой адмысловай свежыны. А мы пры скоках ды чарках цярпліва чакалі. Усе такія ўзнёслыя, радасныя. Не сапсавала нам настрою нават жонка нашага паляўнічага. Нехта ж дадумаўся ёй патэлефанаваць і запрасіў на дэгустацыю бычынага хваста. Прыбегла бедная, мабыць, у тым, у чым ля тэлевізара сядзела. Думала, мабыць, што мужа ў пушчы паранілі ці што. А яе, каб не напалохаць, значыць, у шынок замест шпіталю запрасілі. Гэтыя бедныя жонкі не толькі мужавых захапленняў не падзяляюць, але і радавацца з імі не ўмеюць. Усё спрабавала гаварыць, чаму яна так напалохалася: «Ён жа толькі на рынак пайшоў...» Але тут муж пачаў яе цалаваць. Ледзь мы іх расцягнулі. Згадзілася яна з намі Стары Новы год сустракаць — раз казе смерць.

А пад поўнач кухар нарэшце выйшаў, лоб выцірае. Пытаецца, ці няма сярод нас асілка — вынесці гасцям таго хваста печанага, бо ніхто з шынковых афіцыянтаў не падыме: не толькі талеркі адпаведнай не знайшлі — стальніцу знялі. Добра што як раз надарыўся гасцяваць каваль з Глыбокага — моцны мужчына. Ён паэту Алесю, што пачаў пра беларускую гісторыю прозу выдаваць, нагадаў слыннага Барэйку. Сказаў спадар Алесь, што вычытаў з хронікі Стрыйкоўскага, што быў такі рыцар у Давыда Гарадзенскага. Ну, зірнулі ўсе на глыбоцкага каваля і паверылі Алесю на слова, хоць той казаў, што прынясе кнігу, а як хто купіць, атрымае аўтограф. А каб не ўвярэдзіўся асілак, таго хваста падымаючы, пасам слуцкім яго падперазалі.

І вось выходзіць наш Барэйка — над галавою абедзвюма рукамі трымае — не ўцямлю ніяк — што? Думала спачатку, што каравай, бо надта шышак многа. Але калі ўрэшце ношка на стале апынулася, усе войкнулі, убачыўшы той цуд кухарскага штукарства. Сярод бураковых, цыбулевых, моркавых ружаў, яечных лілеяў на зялёным моху ляжаў ён, — зубрыны хвост. Не доўга цешылася маё вока той прыгажосцю. Як толькі водар хвастовай стравы трапіў у мой нос, самлела...

— Лялі, Лялі пакіньце! — нібы праз сон данеслася да мяне, і я пазнала Лёлін голас. О, вы, мабыць, не знаеце Лёлю, якая што гадзіну сукенкі мяняе. Мы ўсе яе так любім! А вось сяброўку яе я не пераварваю: навошта яна назаўтра ўсім казала, што бачыла, як наш паляўнічы купляў на Камароўцы штосьці ў аднаго гандляра, які ялавічыну прадаваў. Ды яшчэ і дадала, што калі яна падышла да таго дзядзькі, то хвост ужо нехта купіў.

— А што Вы пытаецеся? Як на смак? Ці чыталі ў Коласа пра дзядзьку-кухара. Памятаеце, што ён пра клёцкі казаў? Тут усё наадварот — рыхтаваў жа самы лепшы Лявонаў кухар. Ну, а на ўласе-Масленіцу — будзем у шынку аладкі пячы, сам Лявон казаў.

*Ляліны ўражанні запісаў З.С., шкадуючы, што не трапіў тым вечарам у шынок да Лявона.*

***Прапаршчызмы***

# З «чырвона-зялёнага» пакойчыка

* * *

Перад шыхтом курсантаў стаіць палкоўнік і гаворыць:

— Калі вы такія вось дэбілы, што не можаце запамятаваць загад камандзіра, то набудзьце сабе блакноты і занатоўвайце, як гэта раблю я.

* * *

Два п'яныя сяржанты вяртаюцца са звальнення ў сваю казарму: адзін паўзе, а сябрук ідзе, трымаючыся за плот.

— Ты мяне паважаеш, Іваноў? — пытаецца Пятроў, які ідзе.

— Я ганаруся табою, Пятроў! — адказвае той, што паўзе і ўдакладняе: — Я дзеля цябе нават на амбразуру лягу, калі толькі ты мяне да яе данясеш...

* * *

Калі кавалерыст без галавы, каню трэба думаць за дваіх.

* * *

Чаму жыццё «на гражданке» ўвесь час даражэе? Відаць таму, што не з'яўляецца прадметам першай неабходнасці.

* * *

Чым адрозніваецца манархія ад развітога сацыялізму? Пры манархіі ўлада пераходзіць ад бацькі да сына, а пры развітым сацыялізме — ад дзеда да дзеда.

* * *

Легкавушка — не раскоша. Раскоша — сродкі на яе перасоўванне.

* * *

— Што такое галоснасць, прапаршчык Іваноў?

— Гэта, таварыш падпалкоўнік, калі рот ужо адкрыць можна, але пакласці туды яшчэ няма чаго. Таму трэба зноў з «НЗ» хімічыць...

* * *

— Сяржант Пятроў, дык што сказаў вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі пра савецкага чалавека?

— Чалавек — гэта гучыць горда, таварыш лектар, а робат — перспектыўна!

*З матэрыялаў газеты «Брестский курьер».*

***У старых фаліянтах***

# Напалеон і кравец

У час адступлення французскай арміі з-пад Масквы, уцякаючы ад ворага, Напалеон схаваўся ў доме аднаго краўца-габрэя.

Увайшоўшы ў бедную хаціну, ён дрыготкім голасам сказаў:

— Мяне даганяюць расійцы. Прашу цябе, схавай мяне, бо мне пагражае смерць ці няволя.

Кравец, папраўдзе кажучы, не ведаў, хто перад ім, але сказаў яму схавацца пад пярынай і сядзець ціха. Праз колькі часу ў хату краўца зайшлі два расійскія жаўнеры.

— У цябе ніхто не хаваецца? — пытаюць.

— Трэба не мець розуму, каб хавацца ў маім доме, — адказвае кравец.

Жаўнеры абшукалі ўсе закуткі, але нікога не знайшлі. Перад адыходам, каб пераканацца, што ў ложку нікога няма, разоў колькі стукнулі прыкладамі карабінаў па пярыне, пад якой хаваўся імператар, і выйшлі. Калі гаспадар замкнуў за расійцамі дзверы, спалоханы Напалеон вылез са схову і адсопшыся звярнуўся да краўца:

— Мой дарагі і шляхетны прыяцель, я — імператар Францыі. Ты выратаваў мне жыццё і можаш прасіць аб трох рэчах. Што б ты ні папрасіў — усё будзе споўненае.

Кравец задумаўся і праз хвіліну сказаў:

— Яснавяльможны пане, што я магу хацець? Два гады, як у маім доме працякае дах, а я не маю грошай на направу. Калі б ты, яснавяльможны пане, дапамог мне ў гэтай маёй бядзе, то я быў бы стакроць удзячны.

— Ну ты і дурань! — закрычаў імператар. — Ці звярачаюцца з гэткімі просьбамі да імператараў? Але, хай будзе па-твойму: дах будзе накрыты. Думаю, што наступная твая просьба будзе больш канкрэтная.

Кравец задумаўся. Аб чым папрасіць? Нечакана твар ягоны праясніўся:

— Вашамосць, пару месяцаў назад насупраць мяне адчыніў свой варштат іншы кравец і стварае мне згубную канкурэнцыю. Калі табе не цяжка, пане, вельмі цябе прашу, загадай яму перабрацца ў якое іншае месца.

— А ты, аднак, закончаны дурань, — сказаў імператар, — але добра: я пашлю твайго канкурэнта да д'ябла. Ну, а цяпер тваё трэцяе жаданне.

Кравец глыбока задумаўся, але хутка на ягоным твары з'явілася задавальненне.

— Вашамосць імператар, я вельмі хацеў бы ведаць, што ты адчуваў, калі жаўнеры мацалі цябе карабінамі пад пярынай?

— Ну ты і тупіца! — зазлаваўся імператар. Як ты асмельваешся задаваць мне такія пытанні? Я цябе за гэта загадаю расстраляць.

Праз нейкі час французскія жаўнеры закавалі краўца ў кайданы і адвялі на гаўптвахту.

Усю ноч кравец не мог спаць, плакаў, енчыў і маліўся. Пад раніцу жаўнеры завялі яго ў поле і прывязалі да дрэва. Кравец з жахам назіраў за прыгатаваннямі да экзекуцыі. Афіцэр скамандаваў раз, два... Але тут прыскакаў ад'ютант імператара і спыніў расстрэл.

— Ягамосці імператар дорыць табе жыццё і загадаў уручыць табе вось гэты ліст.

Кравец з палёгкай уздыхнуў, а калі яму развязалі рукі, прачытаў:

«Ты хацеў ведаць, як я пачуваўся пад пярынай у тваім доме. Цяпер ты ўжо ведаеш. Напалеон».

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

*І смех і грэх*

***Пародыі***

***Міхась СКОБЛА***

## Вершы з таго свету

*Прысніўся дзіўны сон:*
*вязе ў чаўнаку*
*усмешлівы Харон*
*мяне цераз раку.*
*...Ляжу на мокрым дне.*
***В.САХАРЧУК.***

Не праз які раўчук,
а цераз Сцікс бяздонны
спяшаўся Сахарчук
да вечнасці ў абдоймы.

«Замучыў Галоўліт —
дарадчыкі і суддзі.
Жывога — ды ў Аід!
За што, скажыце, людзі?

Ні грошай, ні харом,
прамоклая апратка.
Паспачуваў Харон:
— Што, дапісаўся, братка?

Ад паэтычных мар
ачнуўся, бы й не марыў.
як толькі Люцыпар
катлы раскачагарыў...

Чытач, не дакарай,
Я знаю густы вашы.
Ды — як пісаць пра рай,
смалы пакаштаваўшы?

## Сябры па разоры

*Пра гэта ўсё згадаецца,*
*Калі аднойчы з тракту*
*З табою павітаецца*
*Як сябар —*
*Трактар.*
*Няўрымслівы, бадзёры,*
*Бяжыць ён, цягавіты...*
*Я з ім адной разорай*
*І лесам апавіты.*
***А.ПІСАРЫК.***

Сышліся, знаць, характарам —
Не дапісаў куплет
І са звычайным трактарам
Пасябраваў паэт.

Паўсюль удвух валочацца,
Прывезці што каму...
А потым, як захочацца,
То разам у карчму.

Паэт да піва падкі,
А вып'е — дык у фары
Страляе, гад, з рагаткі —
Гуляе ў дэлавары.

«Мазутнік памаўзлівы,
Тупая інфузорыя!
Забыўся, як паўзлі мы
Дамоў адной разораю?»

А трактар быў маўклівы
І меў заўжды па карку,
Што піў заместа піва
Смярдзючую салярку.

Цярпеў, жыцця не ганячы.
Ды ясна ўсім было —
Паэту ключык гаечны
Не замяніў сціло!

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 146

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3300 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 5.02.1996 г.
у 15 гадзін.